КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 14 (335) ◂ 12 красавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



## У ВАНДРОЎЦЫ ЗА МАРАЙ

Стар. 14

## КРЫЗІС ЦІ СВЯДОМАЕ БАНКРУЦТВА?

Нечаканыя праблемы спасцiглi флагманаў беларускай індустрыі. Найперш, вядома пра МАЗ і холдынг «Гарызонт»

Стар. 5

## ХТО СУПРАЦЬ АДНАПОЛЫХ ШЛЮБАЎ

9 красавіка французскі Сенат прыняў пастанову, якая дае зялёнае святло інстытуту аднаполых шлюбаў. Пра тое, што можна чакаць ад праціўнікаў закона, які напярэдадні арганізавалі шумную кампанію пратэсту, журналіст НЧ Алег Новікаў распытваў французскага калегу Аляксандра Чукаева

Стар. 13

## ГІСТОРЫЯ «ЛЯСНЫХ БРАТОЎ» ЯК КАТАЛІЗАТАР ГРАМАДСКАЙ ДЫСКУСІІ

Стар. 15

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

## ФУТБОЛ НА «КРЭСАХ»

Нарыс Ігара Мельнікава

З НАГОДЫ

# БЕЛАРУСЬ НА РАСПРОДАЖ

Сяргей ПУЛЬША

**Міжнароднае рэйтынгавае агенцтва Moody's у штоквартальным рэйтынгавым аглядзе краін СНД заявіла, што можа панізіць рэйтынг Беларусі. Наш рэйтынг і так складае катэгорыю «B3», якая ў фінансавых аналітыкаў завецца «смеццевым рэйтынгам».**




Што гэта азначае? Гэта азначае, што краіне ёсць куды падаць, але вельмі не далёка. Пасля рэйтынгу «B3» у вызначэнні Moody's ідуць толькі чатыры катэгорыі: «Caaa», «Caa», «Ca» і, уласна, «C». Далей катэгорый няма, таму што катэгорыя «C» — гэта поўны дэфолт краіны.

На думку экспертаў агенцтва, дэфіцыт валютнай ліквіднасці, які адчувае Беларусь, з'яўляецца прычынай узмацнення базавых рызык. У ліку гэтых базавых рызык эксперты Moody's называюць агульнае запаволенне тэмпаў росту сусветнай эканомікі, высокую залежнасць ад сыравіннага экспарту, высокую даларызацыю банкаўскай сістэмы, што ў выпадку дэвальвацыі прыводзіць да рэзкага росту выдаткаў на абслугоўванне валютных дэпазітаў і крэдытаў і, адпаведна, да павелічэння аб'ёму пратэрмінаваных абавязацельстваў, дэфіцыту бягучага рахунку плацежнага балансу і гэтак далей.

Між тым, важна таксама пазначыць, што краіны, якія пачынаюцца з рэйтынгу «Baa1» (рэйтынг «B3», як ужо згадвалася, — самы ніжні ў спісе «B»), адзначаюцца як катэгорыя «Not prime», гэта значыць «сумніўная, аж да дрэннай, крэдытная якасць і няўстойлівая здольнасць своечасовага пагашэння па кароткатэрміновых дэпазітах». То бок, гэтыя рэйтынг, асабліва з перспектывай ягонага пагаршэння, азначае: «Не ўкладайце грошай у Беларусь: ёсць вялікая рызыка, што грошы да вас не вернуцца, не кажучы ўжо пра прыбытак».

Адзначае Moody's і палітычны складнік гэтых рызыкаў. У дакуменце яны названыя «дэфіцытам структурных рэформаў, недыверсіфікаванасцю эканомікі і інфантыльнасцю органаў улады, прычынай якой з'яўляюцца ўнутраныя і знешнія палітычныя рызыкі». Палітычныя рызыкі, паводле рэйтынгавага агенцтва, — гэта аўтарытарны рэжым і залежнасць эканомікі ад стасункаў з Крамлём.

Між тым, калі верыць уладным органам, у нас у краіне ідзе мадэрнізацыя. На яе, зразумела, патрэбныя грошы, крэдыты, і патрэбныя тэрмінова. Пра тэрміновасць сведчыць няўдалая спроба Аляксандра Лукашэнкі ўзяць 2 мільярды долараў у Расіі, распрацоўка пакета дакументаў для крэдыту МВФ і шалёны пошук грошай за акіянамі, аж да Сінгапура і ААЭ. Аднак з такім дзейсным рэйтынгам і планамі Moody's яшчэ яго панізіць, Беларусь становіцца ў вельмі неспрыяльнае становішча. А апошнія рухі нашага кіраўніцтва па канфіскацыі «Спартака» і «Камунаркі» ў сукупнасці з планамі ўвесці на ўсіх акцыянерных прадпрыемствах так званы «ўладальніцкі нагляд» ставяць поўны крыж на прыходзе ў краіну інвестараў.

Ці значыць гэта, што Беларусі ўвогуле не дачакацца крэдытаў? Не, не значыць, лічыць эканаміст Антон Болтачка. Справа ў тым, што звычайна «смеццевы рэйтынг» і вялікія рызыкі незвароту грошай кампенсуюцца даволі высокімі працэнтамі, якія выстаўляюць крэдыторы. У выніку аддаваць такія пазыкі значна цяжэй, чым звычайныя крэдыты. Адпаведна, больш грошай трацiцца і на «абслугоўванне пазыкаў».

Між тым, знешні дзяржаўны доўг Беларусі зараз складае 12 мільярдаў долараў ЗША, а выплаты па крэдытах і па іх абслугоўванні ў гэтым годзе могуць скласці каля 4 мільярдаў долараў. «Могуць», таму што ўлада шукае магчымасць неяк «рэструктураваць» крэдыты і адцягнуць момант аплаты. Звычайна гэта робіцца такім чынам: грошы з «новага» крэдыту пускаюцца на аплату пазыкаў па «старым» крэдыце. Улічваючы, што «новы» крэдыт значна «даражэйшы», чым стары, краіна паступова апускаецца ў пазыковую багну.

Варыянтаў у гэтай сітуацыі можа быць два. Варыянт першы — гэта дэфолт краіны, то бок абвяшчэнне пра немагчымасць разлічыцца з замежнымі крэдыторамі па раней узятых абавязках. Як правіла, дэфолт суправаджаецца дэвальвацыяй, інфляцыяй, зніжэннем узроўню дабрабыту насельніцтва і рэзкім запавольваннем эканамічнага росту. Пытанні суверэннага дэфолту рэгулююцца на ўзроўні міжнароднага права. У выніку перамоваў запазычанасць рэструктурызуецца, то бок падпісваецца пагадненне аб адтэрміноўцы плацяжоў, змене ўмоў пазыкі або нават спісанні часткі доўгу. Класічны прыклад дзяржаўнага дэфолту — зробленая Расійскай Федэрацыяй 18 жніўня 1998 года заява аб адмове плаціць па дзяржаўных кароткатэрміновых абавязацельствах і аблігацыях федэральнай пазыкі.

Варыянт другі: новых крэдытаў не браць. Тым больш, што ўжо зараз кожны грамадзянін Беларусі вінен замежнікам каля трох з паловай тысяч долараў. Але і ў гэтым разе беларусам трэба будзе «зацягваць паясы», бо плацяжы па раней узятых крэдытах ніхто не адмяняў. У гэтым рэчышчы трэба скарачаць дзяржаўныя выдаткі, і ў тым ліку — перастаць забаўляцца з мадэрнізацыяй, на што мы таксама пайсці не можам.

Захаваць краіну без дэфолту і без новых крэдытаў можна толькі адным спосабам: продажам беларускіх прадпрыемстваў. Тады мы і дэфолту пазбегнем, і грошы на мадэрнізацыю застануцца. Але, улічваючы папярэджанне Moody's, ні пра які продаж «інвестарам» казаць не даводзіцца. Інвестарам, як ужо казалася вышэй, няма чаго тут рабіць. Таму продаж будзе не інвестарам, а ўласнікам: з умовамі продажу кантрольных пакетаў акцый і немагчымасцю ў далейшым уплываць на дзейнасць прадпрыемства з боку дзяржавы.

Ну, а хто і за якімі прадпрыемствамі ламанецца ў «сінявокую», тут ужо казаць залішне: пра «маскоўскую пагрозу» ў гэтым плане не казаў толькі лянівы.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЖЫХАРКА ШКЛОВА ДАМАГАЕЦЦА КАМПЕНСАЦЫІ

**Днямі Іна Хамрыцялёва накіравала наглядную скаргу ў Магілёўскі абласны суд.**

Жанчына аспрэчвае рашэнне суда Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці, а таксама вызначэнне калегіі па грамадзянскіх справах Магілёўскага абласнога суда. Яна таксама хоча спагнаць з адказчыка панесеныя ёй судовыя выдаткі на адваката ў памеры 900 тысяч рублёў, а таксама 90 тысяч рублёў дзяржаўнай пошліны.

Пастановай суддзі суда Шклоўскага раёна Сільвестравай былі спынены працэсы па справе аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкулу 23.4 КаАП у дачыненні да жанчыны, а таксама яе маці Серафімы Якаўлевай праз адсутнасць у іх дзеяннях складу адміністрацыйнага правапарушэння.

У раённым судзе жанчына скарысталася сваім канстытуцыйным правам на адваката і заплаціла яму за працу грошы. Суд яе апраўдаў і прызнаў дзеянні супрацоўнікаў міліцыі незаконнымі і неабгрунтаванымі, аднак у кампенсацыі выдаткаў з міліцыянта судом было адмоўлена.

Праваабаронца Барыс Бухель кажа, што жанчыне не кампенсавалі выдаткі на адваката, бо такая норма не прапісана ў самім КаАП.

«У гэтым выпадку суддзя мусіла скарыстацца паняццем аналогіі права і паглядзець, як адбываецца кампенсацыя выдаткаў у выніку апраўдання ў іншых існуючых кодэксах, напрыклад, у Крымінальна-працэсуальным і Грамадзянска-працэсуальным кодэксах. Аднак гэтага яна не зрабіла. Яе спасылка на тое, што нельга ўжываць аналогію права ў адміністрацыйным працэсе, у дадзеным выпадку абвяргаецца арт. 72 ч.3 «Ліквідацыя і пераадольванне прабелаў» Закона «Аб нарматыўна-прававых актах», — гаворыць Барыс Бухель.

Нагадаем, што незаконныя адміністрацыйныя справы на маці і дачку былі заведзены 29 жніўня 2012 года. Яны сталі вынікам бытавой спрэчкі паміж суседзямі за мяжу паміж іхнімі ўчасткамі. Добра знаёмы суседцы міліцыянт вырашыў дапамагчы «разабрацца» з Серафімай Якаўлевай і Інай Хамрыцялёвай. Ён прыехаў да іх, крычаў, а потым спрабаваў незаконна сілаю загрузіць жанчын у аўтамабіль. Але гэта ў яго зрабіць не атрымалася — ён нарабіў ім толькі сінякоў. За непадпарадкаванне міліцыянт склаў на іх пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

**spring96.org**

САЛІДАРНАСЦЬ

# «НАША НІВА»: «АСЦЯРОЖНА, ЭКСТРЭМІЗМ!»

*Генадзь КЕСНЕР*

**Чарговы нумар «Нашай Нівы» ў сераду, 10 красавіка, выйшаў без ніводнага фотаздымка на першай старонцы. На галоўнай паласе змешчаны толькі загаловак «Асцярожна, экстрэмізм!».**

Такі крок рэдакцыйнага калектыву звязаны з намерамі КДБ прызнаць экстрэмісцкімі альбомы «Прэс-фота Беларусі», у якіх змяшчаліся лепшыя працы фотажурналістаў краіны за 2011 год.

Чаму «нашаніўцы» пайшлі на такі крок, «Новаму часу» распавёў намеснік галоўнага рэдактара выдання Зміцер Панкавец.

«Гэта знак салідарнасці з тымі людзьмі, якія трапілі ў вельмі непрыемную сітуацыю, калі іх могуць абвінаваціць у экстрэмізме, і ў гэтай сітуацыі мы як журналісты, як калегі былі павінныя неяк адрэагаваць. Гэта ўжо не першыя падобныя абвінавачванні ў экстрэмізме, раней такія справы развальваліся, але нельга дапусціць, каб такія рэчы паўтараліся, каб, не дай Бог, у будучыні абсалютна нармальныя, адэкватныя матэрыялы патрапілі пад забарону, зрабіліся экстрэмісцкімі, каб іх аўтараў абвінавацілі ледзьве не ў тэрарызме. Таму вось гэта такі наш акт салідарнасці», — адзначыў намеснік галоўнага рэдактара «Нашай Нівы».

Са свайго боку, Зміцер Панкавец не гатовы параўнаць гэтую сітуацыю з той, калі на пачатку прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі цэнтральныя друкаваныя выданні краіны выйшлі з белымі плямамі замест забароненага да друку антыкарупцыйнага даклада дэпутата ад апазіцыі Вярхоўнага Савету 12-га склікання Сяргея Антончыка. «Абсалютна не. Мы так зрабілі не таму, што мы нечага баімся. Гэта крыху іншая сітуацыя, і, напэўна, пакуль што не будзе такога, каб белыя плямы вярнуліся ў газеты», — мяркуе журналіст.

Зміцер Панкавец звязвае падзеі ў дачыненні да альбомаў «Прэс-фота Беларусі» не столькі з ціскам на непасрэдна журналістаў, колькі параўноўвае іх з тым ціскам, які зараз адбываецца на выкладчыкаў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце.

«Фотаздымкі ў альбоме звязаны з Ашмянамі, а гэта ў Гродзенскай вобласці. А там заразназіраецца актыўнасць з боку генерала Івана Каржа, кіраўніка абласнога КДБ. Калі ён быў у Гомельскай вобласці таксама кіраўніком абласнога аддзялення КДБ, то пры ім з'явіліся першыя справы на маладафронтаўцаў за ўдзел іх у дзейнасці незарэгістраванай арганізацыі, мелі месца і факты спробаў вярбоўкі моладзевых актывістаў апазіцыі Гомельскай вобласці. Пасля Івана Каржа перавялі ў Гродна, і вось тут пачалася ягоная новая актыўнасць на новым месцы. Пачаўся ціск на выкладчыкаў універсітэта, што таксама абсалютна не нармальная сітуацыя, бо нельга пазбаўляць чалавека працы за ягоныя палітычныя погляды, а тым больш за нейкую выдадзеную кнігу. Выглядае на тое, што спадар Корж — чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, які, магчыма, жадае спадабацца камусьці ў Мінску, каб знайсці магчымасці пайсці на павышэнне», — не выключае Зміцер Панкавец.

А ўвогуле, лічыць намеснік рэдактара «НН», зараз вельмі неабходна праяўляць салідарнасць, каб такая сітуацыя не паўтаралася. «Быў цудоўны момант, калі падчас арышту Антона Сурапіна калегі таксама выказалі актыўную салідарнасць з ім, і хутка маладзён выйшаў на свабоду. Спадзяюся, што і ў нашым выпадку гэты акт неяк дапаможа, і гэтая «справа аб экстрэмізме» разваліцца», — падсумаваў Зміцер Панкавец.



АКЦЫЯ

# ЗНОЎ САЛІДАРНЫЯ З БЕЛАРУССЮ

**21 красавіка ў Варшаве на Кракаўскім прадмесці адбудзецца канцэрт «Solidarni z Białorusią», які ўжо традыцыйна арганізоўвае Inicjatywa Wolna Białoruś (IWB).**

А 19 гадзіне на сцэне каля гатэлю «Брысталь» выступяць зоркі польскай («Strachy na Lachy», «Izrael» і госці «Vienio» і Muniek Staszczyk) і беларускай (энергічны Лявон Вольскі, «Дзецюкі») музыкі, акрамя гэтага выступяць асаблівыя госці, якія распавядуць пра сітуацыю, якая пануе зараз у Беларусі.

А напярэдадні 20 красавіка адбудзецца спецыяльны паказ фільму «Жыве Беларусь» пра лёс беларускага музыкі, пра яго апазіцыйную дзейнасць. Галоўны герой, Мірон, адкрыта супрацьстаіць сістэме, якая пераследуе яго і яго сям'ю. Фільм ужо быў прэзентаваны на некалькіх фестывалях у Еўропе.

Адразу пасля спецыяльнага паказу адбудзецца спатканне з жонкамі беларускіх апазіцыянераў: Наталляй Пінчук, Марынай Адамовіч, Настай Дашкевіч і дачкой Міколы Аўтуховіча Кацярынай.

**www.wolnabialorus.pl**

СПРАВА

# ЧАРГОВЫ ПЕРАСЛЕД ЗА ФАТАЗДЫМАК

**На Гродзеншчыне чакаецца новы адміністрацыйны працэс па факце публікацыі фотаздымкаў у інтэрнэце.**

25 сакавіка грамадскія актывісты з гораду Бярозаўка традыцыйна ўшанавалі памяць генерала БНР Кіпрыяна Кандратовіча. Магіла гэтай гістарычнай асобы знаходзіцца паблізу праваслаўнай царквы раённага цэнтру Воранава.

Кіпрыян Кандратовіч быў перапахаваны тут у траўні 2000 года. Штогод у Воранава прыязджаюць грамадскія актывісты Лідчыны, каб ускласці кветкі і запаліць зьнічкі. Сёлета памятная акцыя праходзіла без прысутнасці міліцыі.

Аднак паводле з'яўлення ў інтэрнэце фотаздымкаў ушанавання памяці, на якім удзельнікі зняліся пад бел-чырвона-белым сцягам, воранаўскай міліцыяй пачата адміністрацыйная справа — актывістаў вінавацяць у правядзенні «несанкцыянаванай акцыі».

**spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЗНОЎ ВЯСНА, ЗНОЎ СУБОТНІК!

Сяргей САЛАЎЁЎ



**У Беларусі заканчваецца працяглы зімні перыяд. На будучым тыдні сіноптыкі абяцаюць стойкі «плюс», а грамадзяне рыхтуюцца да правядзення вясеннепасяўных працаў. Разам з імі рыхтуюцца і ўсе, каго зіма ўжо дастала.**

Як паведаміў начальнік упраўлення энергетыкі і навукова-тэхнічнага развіцця Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Вячаслаў Шміт, паводле правілаў правядзення ацяпляльнага сезона, ацяпленне ў кватэрах беларусаў адключаюць, калі цягам трох дзён сярэднясутачная тэмпература паветра не будзе апускацца ніжэй за +8 градусаў Цэльсія.

Раней для прыняцця рашэння аб адключэнні ацяплення такая сярэднесутачная тэмпература павінна была трымацца не менш за 5 дзён. Але новая норма ў тры дні пачала дзейнічаць толькі падчас ацяпляльнага сезона 2012–2013 года. Сапраўды, у год беражлівасці трэба эканоміць паліва. Яго і так ужо выкарысталі больш, чым трэба.

Але, на жаль, пацяпленне не тычыцца заробкаў — яны застаюцца замарожанымі. Мінімальная заработная плата за сакавік бягучага года не індэксуецца, паколькі індэкс спажывецкіх коштаў за сакавік да студзеня 2013 года не перавысіў пяціпрацэнтны парог, паведамляе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Тое, што хутка ў насельніцтва рэзка вырастуць выдаткі на праезд у вёску, Міністэрства сацыяльнай абароны хвалюе мала.

Паціху-пакрыху падрастае беларуская інфляцыя. Пры прагнозе на ўвесь год у 12%, у сакавіку яна склала 1,1%, а з пачатку года перасягнула пяціпрацэнтны бар'ер — 5,4%, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт. Харчовыя тавары ў сакавіку 2013 года падаражэлі на 0,6%, за тры месяца — на 5,2%. Найбольшы рост цэн сярод харчовых тавараў зафіксаваны, як ні дзіўна, на бульбу (на 19,7%) і яйкі (на 14,8%). На нехарчовыя тавары цэны выраслі на 0,4% у сакавіку і на 1,8% — з пачатку года. Найбольшы рост цэн адзначаны на бензін (5,2%) і медыкаменты (4,2%). Значна падаражэлі паслугі дашкольных установ (на 50%), паслугі электразабеспячэння (на 34%).

Сапраўды, пабачыш цэны на бульбу і на бензін (калі ж яму яшчэ падаражэць, як не перад пасяўной?), за сэрца схопішся — адсюль і медыкаменты падаражэлі. Паслугі энергазабеспячэння — ясны пень, працяглая зіма. А вось чаму падаражэлі дашкольныя ўстановы? Мабыць, таму, што на дзецях эканоміць не прынята…

Але куды ідуць гэтыя грошы? Аляксандр Лукашэнка лічыць, што ва ўсім вінаватыя спартоўцы. Ён у чарговы выказаў незадаволенасць незаслужана высокімі заробкамі беларускіх спартсменаў і прапанаваў перагледзець падыходы ў фінансавай падтрымцы спорту.

«Справа не ў тым, што мы камусьці баімся пераплаціць або кагосьці недааацаніць. Я ўсё ж такі хацеў бы вярнуцца і разгледзець гэтыя праекты ўказаў з пункту гледжання падтрымкі і асабліва выплаты стыпендый па выніках. Шчыра кажучы, я не хацеў бы нават вызначаць колькасць гэтых стыпендый. Няхай гэта будзе 5 тысяч, а не 500 і не 250. Але калі няма адпаведнасці крытэрыям, якія мы выпрацуем, значыць, гэта будуць дзве стыпендыі. Гэта значыць, трэба вызначыцца, па якіх выніках і каму мы будзем выдаваць гэтую стыпендыю», — заявіў Лукашэнка, выклікаўшы да сябе адказных за спорт чыноўнікаў.

«Я супраць таго, каб выдаваць стыпендыю за перамогу, нават на Алімпійскіх гульнях. Перамог спартсмен на Алімпійскіх гульнях — давайце яму заплацім, ды мы і плацім нямала. У нас ёсць і іншыя магчымасці. І алімпійцы, пераможцы і прызёры, гэтым заўсёды карыстаюцца. Мы бясплатна даем зямельны ўчастак, аказваем іншую падтрымку, спонсары робяць прыстойныя падарункі, ад аўтамабіляў да грашовых узнагарод», — паведаміў ён.

«Стыпендыю трэба плаціць толькі перспектыўным спартсменам, якія заўтра пакажуць вынік і ў якіх (гэта будуць у асноўным маладыя людзі), агулам, грошай няма. І ім трэба даць гэтую стыпендыю. Яна не павінна быць празмернай. Гэта будзе добрая падтрымка, каб ён, перш за ўсё, выкарыстаў гэтыя грашовыя сродкі для свайго развіцця. Тады будзе сэнс», — удакладніў Лукашэнка сваё меркаванне.

Гэта, канешне, слушная прапанова — падтрымліваць найперш маладых спартсменаў. Але што ж гэта атрымліваецца? Па-першае, няўжо да гэтага часу прэзідэнцкія стыпендыі атрымліваў хто заўгодна, без «адпаведнасці крытэрыям»? Падругое, за дасягненні на Алімпіядзе плаціць павінны спонсары? А як жа дэкляраваны і праеўшы мозг «гонар краіны», які абараняюць на Алімпіядзе спартоўцы? І, па-трэцяе, калі так, ці не разбягуцца ад нас спартсмены да больш багатых краін і спонсараў? Такія выпадкі, на жаль, адбываюцца ўсё часцей.

Усё ўпіраецца ў грошы. Вось і традыцыйна ўвесну дзяржава зноў просіць падзяліцца. Той жа самы Аляксандр Лукашэнка аддаў загад правесці 20 красавіка ўсеагульны добраахвотны рэспубліканскі суботнік. Беларускія ўлады ўпарта працягваюць выкарыстоўваць прыдуманы камуністамі магутны агітацыйны сродак, нягледзячы на тое, што само правядзенне падобных мерапрыемстваў гаворыць пра вечны недахоп бюджэтных сродкаў.

Паводле афіцыйнай версіі, палова сродкаў, пералічаных у бюджэт па выніках суботніка, будзе пушчана на падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона і рэалізацыю мерапрыемстваў па правядзенні ў 2013 годзе года беражлівасці, другая палова — на закупку рэанімацыйных аўтамабіляў хуткай медыцынскай дапамогі.

Тут цікавыя дзве рэчы. Першая: сродкі на ўсе пералічаныя выдаткі павінны прадугледжвацца ў рэспубліканскім і мясцовых бюджэтах. Асабліва на «падрыхтоўку дзіцячых аздараўленчых лагераў да летняга сезона». З рэанімацыйнымі аўтамабілямі — Бог з імі, усе ведаюць, у якім становішчы нашая медыцына, а хто не ведае — зазірніце ў паліклініку. А вось тое, што сродкі з суботніка выдзяляюцца яшчэ і на «мерапрыемствы па правядзенні года беражлівасці», гэта, прабачце, нонсэнс і аксюмаран. Якая можа быць беражлівасць, калі на яе зарабляюцца і выдаткоўваюцца неблагія грошы, што вядзе да траты гэтых грошаў і ў выніку — адсутнасць беражлівасці!

Дарэчы, кіраўніком рабочай групы па правядзенні суботніка з'яўляецца намеснік прэм'ер-міністра Пётр Пракаповіч. Архітэктар дэвальвацыі будзе зноўку прымаць грошы ў насельніцтва! А здавалася б, першае красавіка даўно мінула…

**На жаль, пацяпленне не тычыцца заробкаў — яны застаюцца замарожанымі. Мінімальная заработная плата за сакавік бягучага года не індэксуецца**

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### МАРЫЛУІЗА БЭК

Пакуль у Брусэлі беларускія апазіцыянеры і еўрачыноўнікі спрачаліся наконт магчымасці «размарозкі» адносінаў Беларусі і ЕС, дэпутатка Бундэстагу ад фракцыі зялёных Марылуіза Бэк вызначыла яшчэ адну праблему гэтых адносін. У сувязі з прэзентацыяй штогадовага дакладу Amnesty International аб сітуацыі са смяротным пакараннем у свеце, Марылуіза Бэк запатрабавала адмяніць смяротнае пакаранне ў Беларусі.

Як гаворыцца ў заяве нямецкай парламентаркі, 11 красавіка 2011 года ў мінскім метро здарыўся тэракт. Амаль праз год, у сакавіку 2012 года, абвінавачаныя ў ім Уладзіслаў Кавалёў і Дзмітрый Канавалаў былі пакараныя смерцю. Працэдура, ажыццёўленая ў цэнтры Еўропы, была зробленая варварскім спосабам: стрэлам у патыліцу. Увесь гэты час маці Уладзіслава Кавалёва змагаецца за тое, каб ёй выдалі цела сына. Беларускія ўлады дагэтуль адмаўляюць ёй у праве ведаць пра месца пакарання сына, а таксама пра дакладную дату яго смерці.

Нямецкая парламентарка нагадвае, што судовы разгляд па справе двух маладых людзей прадэманстраваў усю неадпаведнасць паказальнага судовага працэсу прававым крытэрам: супярэчнасць доказаў, запалоханасць сведак і іх вымушанае маўчанне, ігнараванне алібі абвінавачаных, нарэшце, тое, што прызнанні асуджаных былі атрыманыя ў выніку катаванняў. Паводле існуючых канстытуцыйных нормаў, пакаралі нявінных людзей, гаворыцца ў заяве.

### МЕЛІЦІНА СТАНЮТА



Беларуская гімнастка Меліціна Станюта ўявяла сваіх прыхільнікаў у шок. Зразумела, што можна заваяваць некалькі медалёў, але не пяць штук за 10 дзён!

Станюта выйграла два медалі (серабро і бронзу) у асобных практыкаваннях на другім этапе Кубка свету па мастацкай гімнастыцы, які завяршыўся 9 красавіка ў Лісабоне (Партугалія). Беларуска стала ўладальніцай срэбра ў практыкаваннях са стужкай. У практыкаванні з булавамі Меліціна Станюта заняла трэцяе месца.

Крыху раней, на міжнародным турніры серыі Гран-пры па мастацкай гімнастыцы, які завяршыўся ў Тые (Францыя) 31 сакавіка, Станюта выйграла тры «бронзы». Лідар жаночай зборнай Беларусі адзначылася ў фіналах асобных практыкаванняў — з абручом, з булавамі і са стужкай.

### ЮРЫ ДОРН



Дзяржаўнае абвінавачванне падало пратэст на прысуд кіраўніку Іудзейскага рэлігійнага аб'яднання ў Беларусі Юрыю Дорну.

«Дзяржабвінавачванне накіраваў у суд касацыйны пратэст на прысуд Дорну», — паведаміў старэйшы памочнік пракурора Мінска Сяргей Балашоў.

29 сакавіка суд Цэнтральнага раёна Мінска прысудзіў Дорна па ч. 2 арт. 243 (ухіленне ад выплаты падаткаў) да двух гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Час утрымання пад вартай яму залічылася ў тэрмін пакарання і вызвалілі ў залі суду.

Юрый Дорн быў апраўданы па ч. 1 арт. 426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў) за адсутнасцю складу злачынства, па ч. 2 і 3 арт. 426 — апраўданы за недаказанасцю віны.

Пракурор прасіў суд прызначыць Дорну 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць адказныя пасады на пэўны тэрмін.

Дорн быў затрыманы ў канцы сакавіка 2012 года, у дачыненні да яго была распачата крымінальная справа за атрыманне хабару за спрыяльнае вырашэнне пытання аб заключэнні дамовы арэнды нежылых памяшканняў, якія належаць рэлігійнаму аб'яднанню. Затым у дачыненні да яго быў распачаты шэраг крымінальных спраў за перавышэнне ўлады і службовых паўнамоцтваў, ухіленне ад выплаты падаткаў, службовы падлог.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ПАТРЫНДЗЕЛІ Ў БРУСЭЛІ

Сяргей ПУЛЬША




**Канферэнцыя «Дыялог аб мадэрнізацыі з беларускім грамадствам», якая прайшла 9 красавіка ў Еўрапарламенце, была поўная жарсцяў. Некаторыя палітыкі пабачылі ў ёй пагрозу скасавання санкцый ЕС у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, а некаторыя — магчымасці для Беларусі.**

## Не дамовіліся міжсобку

Брусэльскаму пасяджэнню папярэднічаў чарговы «міжсабойчык» беларускай апазіцыі. Напярэдадні канферэнцыі кіраўнікі трох палітычных сілаў (Аляксандр Мілінкевіч, лідар руху «За Свабоду», Уладзімір Някляеў, лідар кампаніі «Гавары праўду!» і Аляксей Янукевіч, лідар Партыі БНФ) выступілі з заявай, у якой выказалі сваё бачанне еўрапейскага дыялогу. З крытыкай на заяву абрынуўся лідар «Еўрапейскай Беларусі» і палітэмігрант Андрэй Саннікаў.

Калі паглядзець на «заяву тройкі», то, здавалася б, нічога звышсенсацыйнага ў ёй няма. «Тройка» проста выказала ўпэўненасць, што «толькі вяртанне да паўнавартаснага дыялогу і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і ЕС істотна пашырыць магчымасці нашай краіны і грамадства для мадэрнізацыі і пабудовы дэмакратычнага ладу». Пры гэтым адзначыўшы, што «паўнавартасны дыялог магчымы толькі пасля вызвалення палітычных вязняў, уключаючы спыненне дзеяння судовых рашэнняў у дачыненні да ўмоўна асуджаных і асуджаных з адтэрміноўкай выканання прысуду». У той жа час падпісанты заявілі, што для ўмацавання стабільнасці ў рэгіёне і незалежнасці Беларусі ЕС можа дзейнічаць ужо зараз, не чакаючы крокаў афіцыйнага Мінска.

Прапановы «тройкі» па аднабаковых дзеяннях з боку ЕС вельмі слушныя, але, шчыра кажучы, малавыканальныя. Першыя дзве — гэта максімальна спрасціць візавы рэжым для грамадзян Беларусі, выходзячы з магчымасцяў, якія дае Візавы кодэкс ЕС, і пачаць практычную рэалізацыю ў дачыненні да грамадзян Беларусі ўмоваў пагаднення аб малым памежным руху з Беларуссю ў 50-кіламетровай зоне на мяжы з Польшчай і Літвой. На гэта ўжо адрэагавалі адказныя асобы з Польшчы і Літвы. Візы ў аднабаковым парадку скасаваць немагчыма: грамадзяніна без візы ў Польшчу ці Літву не пусцяць беларускія памежнікі. А Беларусь пагадненні аб малым памежным руху не ратыфікуе ўжо два гады. Так што тут звяртацца трэба да беларускіх уладаў, а не да Еўропы.

Таксама прапануецца спрасціць для малога і сярэдняга бізнэсу правілы стварэння і функцыянавання ў ЕС сумесных беларуска-еўрапейскіх прадпрыемстваў і пашырыць магчымасць для беларусаў атрымліваць еўрапейскую адукацыю. Выбачайце, прэферэнцыі для бізнэсу — не справа ЕС, а ўключэнне Беларусі ў Балонскі працэс — зноў-такі справа ўлады «сінявокай».

Таму ўся заява была зведзеная да прэамбулы пра «вяртанне паўнавартаснага дыялогу» і «амбулы», дзе казалася, што, «у выпадку выканання ўрадам Беларусі раней адзначаных умоваў і аднаўлення паўнавартаснага дыялогу з ЕС, вярнуцца да перамоваў з афіцыйным Мінскам у межах «Сумеснага часовага плану», што будзе спрыяць мадэрнізацыі і лібералізацыі Беларусі. Мы падтрымаем любыя дзеянні, якія будуць адпавядаць прынцыпу — «больш Еўропы для Беларусі і беларусаў».

Вось гэта і выклікала рэзкую заяву Саннікава. «Сваю заяву кіраўнікі трох арганізацый назвалі «Больш Еўропы для Беларусі», хоць чытаецца яно як «Хочам легітымную дыктатуру»... Цалкам відавочна, што сёння ў Еўропе зноў спрабуюць вярнуцца да не раз выпрабаванага і не раз праваленага сцэнару дыялогу з дыктатарам. Некаторыя еўрапейскія палітыкі і чыноўнікі ЕС «моцна стаміліся» адстойваць свае ж прынцыпы свабоды, дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Беларускія палітвязні з'яўляюцца ўсяго толькі прыкрай перашкодай на шляху да аднаўлення ранейшых адносін, сутнасць якіх зводзілася да славеснай крытыкі парушэнняў правоў чалавека, але пры гэтым да нарошчвання дзелавой актыўнасці ў Беларусі пад кантролем дыктатуры. Усё гэта нязменна прыводзіла да ўмацавання дыктатуры і ўзмацнення рэпрэсій», — абрынуўся Саннікаў адначасова і на еўрапалітыкаў, і на «тройку».

Саннікаў нагадаў: чым мякчэйшая ў Беларусі «лібералізацыя», тым мацнейшы ціск аказваецца на палітвязняў у турмах. І прапанаваў сваё непрымальнае рашэнне: «Да вызвалення палітвязняў спыніць усе адносіны з дыктатурай, прыпыніць гандаль нафтапрадуктамі і імпарт калійных угнаенняў, замарозіць банкаўскія рахункі, не прымаць эмісараў дыктатуры і не адпраўляць сваіх».

## Еўропа шукае пернік

Варта казаць, што апасенні Саннікава мелі пад сабой падставы. На канферэнцыі ў Брусэлі прадстаўнікі Еўрапарламента пераконвалі беларускую апазіцыю ў неабходнасці дыялогу з уладамі. Непасрэдны арганізатар канферэнцыі, старшыня камітэта па адносінах з Беларуссю, польскі дэпутат Філіп Качмарак прапанаваў прааналізаваць вынікі і паразважаць пра будучыню праекту «Дыялог аб мадэрнізацыі».

У гэтым рэчышчы віцэ-старшыня Еўрапарламента Яцэк Пратасевіч адзначыў, што дыялог неабходны, і спаслаўся на досвед польскай «Салідарнасці». Паводле яго слоў, трэба супрацоўнічаць з элітамі на мясцовым узроўні, што рана ці позна наступіць перыяд трансфармацыі, калі кантакты і вопыт гэтых людзей будуць неабходныя.

Дырэктар дэпартамента па пытаннях Расіі, «Усходняга партнёрства», Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешняга дзеяння ЕС Гунар Віганд паведаміў, што ў Тбілісі адбылася сустрэча, падчас якой Штэфан Фюле і Уладзімір Макей дамовіліся аб далучэнні да «Дыялога аб мадэрнізацыі» афіцыйнага Мінска. Пры гэтым Віганд даў зразумець, што дыялог з уладамі будзе адбывацца не разам з грамадзянскай супольнасцю, а паралельна.

Рэзка супраць гэтага выступілі кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька і намеснік старшыні незарэгістраванага ў Беларусі праваабарончага цэнтру «Вясна» Валянцін Стэфановіч. Стэфановіч адзначыў, што ў такім выпадку, «калі будзе адбывацца мадэрнізацыя, то гэта будзе аўтарытарная мадэрнізацыя, без дэмакратызацыі грамадства».

Лябедзька выказаўся яшчэ больш катэгарычна: «Па-ранейшаму застаюцца тры ўмовы: вызваленне палітвязняў і іх рэабілітацыя, правядзенне свабодных і празрыстых выбараў, а потым — дыялог аб мадэрнізацыі. І толькі ў такім парадку, ніякім іншым».

## Што ў выніку?

Вынік канферэнцыі такі, які ад яго і чакалі. То бок амаль ніякага: «Пасядзелі, патрындзелі, разышліся». Зразумела, гэтая канферэнцыя і не была разлічаная на тое, што ад яе будуць нейкія вынікі: ніякіх рэзалюцыяў на ёй не прымалася. Відавочна, што таксама не магло быць вынікам «развіццё альбо закрыццё» «Дыялогу аб мадэрнізацыі». Закрыць гэтую праграму для Еўропы — значыць, прызнаць поўны правал еўрапейскай палітыкі ў дачыненні да суседкі. А развівацца яна не можа таму, што, як казалі шмат якія эксперты, яна «не інстытуцыяваная». То бок, у яе няма выразнай структуры, тэрмінаў дзеяння, і нават бюджэту. Раней усе беларускія эксперты, якія ў ёй працавалі, працавалі на валанцёрскіх пачатках і з уласнага энтузіязму.

З-за сваёй неінстытуцыяванасці гэтая праграма таксама не можа прапанаваць нічога афіцыйнаму Мінску. У свой час яна разглядалася пэўным «парэзаным» варыянтам «Усходняга партнёрства» для Беларусі, але ў праграме «Усходняе партнёрства» хоць невялічкія, але былі грошы. Тут жа няма нічога. А значыць, няма чаго і абмяркоўваць.

Адзіны і вельмі важны вынік толькі ў тым, што еўрапейскія чыноўнікі афіцыйна паведамілі сваім беларускім апазіцыйным калегам: Фюле і Макей дамовіліся аб далучэнні да «Дыялога аб мадэрнізацыі» афіцыйнага Мінска. Пасыл вельмі ясны: будзе пэўнае «размарожванне» кантактаў паміж афіцыйным Мінскам і Брусэлем, і «не здзіўляйцеся, калі мы дадзім візу Макею». Хаця на якім узроўні адбудзецца «размарозка», пакуль казаць цяжка.

І дзеянні ў гэтым накірунку ўжо відавочныя. Міністр замежных справаў Швецыі Карл Більдт паведаміў у сваім акаўнце ў «Твітары» аб хуткім аднаўленні работы пасольства Швецыі ў Беларусі. «Пасля пэўных складанасцяў мы адправім часовага паверанага кіраваць нашым пасольствам у Мінску», — напісаў Більдт.

Прадстаўнік МЗС Беларусі Марыя Ваньшына пацвердзіла твіт Більдта: «Па выніках праведзеных па ініцыятыве шведскага боку двух раўндаў кансультацый паміж МЗС беларускім бокам прынятае станоўчае рашэнне адносна просьбы шведскага боку аб акрэдытацыі ў Мінску часовага паверанага ў справах Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь».

## Палітвязні будуць вызваленыя

А як жа прынцыповая пазіцыя Еўропы? А як жа палітвязні? Бо, калі пачынаецца дыялог, значыць, афіцыйны Мінск нешта Еўропе прапанаваў? А прапанаваць ён можа толькі адно — вызваленне ўсіх альбо часткі палітвязняў.

Беларускія палітолагі, палітыкі і эксперты абвясцілі «сацыялістычнае спаборніцтва» на прагнозы, калі ж палітвязні будуць вызваленыя. Большасць іх схіляецца да варыянту «увосень гэтага года». Акурат тады, калі Макей атрымае візу для ўдзела ў саміце «Усходняга партнёрства» ў Вільні ў лістападзе гэтага года.

Каб рабіць такія прагнозы, не трэба быць графам Каліёстра, бабкай Вангай ці дзядзькам Настрадамусам. Больш за тое, і Еўропа з іх «прынцыповай пазіцыяй», і беларуская апазіцыя тут ні пры чым.

Улетку, прыблізна ў чэрвені-ліпені павінен адбыцца судовы перагляд справаў у адносінах тых, да каго прынятая мера «асуджаны ўмоўна», альбо «асуджаны з адтэрміноўкай прысуду» на два гады. Гэта ўсе «вяршкі» кампаніі «Гавары праўду!»: Уладзімер Някляеў, Андрэй Дзмітрыеў, Сяргей Вазняк, Аляксандр Фядута. Разам з імі — сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі БХД і былы кандыдат на прэзідэнта Віталь Рымашэўскі. Тады ж будзе перагляд справаў жонкі Саннікава Ірыны Халіп і былога кіраўніка перадвыбарчага штаба Мікалая Статкевіча Сяргея Марцалева.

Ці вырашыць наш самы гуманны і справядлівы суд у свеце, на фоне нармалізацыі адносінаў з Еўропай, каго-небудзь прызнаць вінаватым у парушэнні ўмоўнага тэрміна і накіраваць у калонію? Адказ відавочны.

Напачатку восені заканчаецца тэрмін зняволення Аляксандра Францкевіча і нават тэрмін другога прысуду для Дзмітрыя Дашкевіча. Прыкладна ў гэты час заканчваецца «хімія» Паўла Севярынца. То бок, як мінімум тры палітзняволеных «выйдуць з-за кратаў», а сем — узноўленыя ў правах.

Не трэба забывацца і на тое, што ў Беларусі зазвычай пад Дзень Перамогі (9 мая) альбо пад новы Дзень Незалежнасці (3 ліпеня) праводзіцца амністыя. У 2012 годзе яна была складзеная так, што палітвязні на вызваленне разлічваць не маглі. Але ніхто не гарантуе, што ў 2013 годзе законапраект будзе складзены інакш. Калі гэта адбудзецца, то можна чакаць на волі яшчэ каго-небудзь.

Паўтаруся: гэта заслуга не Еўропы ці апазіцыі, а выключна Крымінальнага кодэкса Беларусі.

## Ці захавае Еўропа твар?

Адзіная выснова, якую можна зрабіць з гэтых «знешнепалітычных рухаў»: у спрэчцы апазіцыі мае рацыю Саннікаў. Еўрапейцы стаміліся ад «дэмакратызацыі» Беларусі. Але не ведаюць, як мякчэй паведаміць пра гэта беларускаму грамадству ў асобе апазіцыі, і пры гэтым не страціць твар. Здаецца, беларуская дыпламатыя ў справе санкцый-палітвязняў узяла Еўропу на змор. Ці мае моц Еўропа хаця б «дзень прастаяць ды ноч пратрымацца» да вызвалення ўсіх палітвязняў — гэта ўжо пытанне да Еўропы.

ПРАБЛЕМЫ

# КРЫЗІС ЦІ СВЯДОМАЕ БАНКРУЦТВА?

Сяргей ПУЛЬША

**Нечаканыя праблемы спасціглі флагманаў беларускай індустрыі. Найперш, вядома пра МАЗ і холдынг «Гарызонт». Паводле звестак з «Гарызонту», прадпрыемства пераведзенае на чатырохдзённы працоўны тыдзень, і там звольнена больш за сто чалавек. На МАЗе таксама ўведзеная «чатырохдзёнка», але пра звальненні пакуль што не паведамляецца.**



Праблемы на «Гарызонце» пачаліся некалькі месяцаў таму. А ў пачатку сакавіка ў некаторых цэхах быў уведзены чатырохдзённы працоўны тыдзень. У прыватнасці, гэта закранула цэхі па зборцы тэлевізараў. Пятніца была абвешчаная выходным днём, а чатыры працоўныя дні перанеслі на восень. У красавіку сітуацыя пагоршылася. Пагаршаецца яна таму, што своечасова не пастаўленыя камплектуючыя па зборцы тэлевізараў.

Адначасова з «Гарызонтам» праблемы мае яшчэ адно прадпрыемства холдынгу — завод «Беліта». Але ў адрозненне ад галоўнага завода электронікі і бытавой тэхнікі «Гарызонт», тут пайшлі па іншым шляху. Частка працоўных перавялі на ўчастак тэхнічных сурвэтак, хтосьці быў накіраваны ў склад гаспадарчай групы, а хтосьці сышоў у працоўны адпачынак.

Праблемы ж на МАЗе звязаныя з тым, што з-за адсутнасці попыту на аўтатэхніку МАЗ знізілася пакупніцкая актыўнасць на расійскім і міжнародным рынках, што пацягнула за сабой павелічэнне запасаў аўтамабіляў і прычапной тэхнікі. З улікам удакладнення аб'ёмаў вытворчасці і з мэтай рацыянальнага выкарыстання працоўных, матэрыяльных і паліўна-энергетычных рэсурсаў было вырашана перайсці на «чатырохдзёнку».

Такое становішча беларускіх прадпрыемстваў выклікае здзіўленне. Хаця б таму, што, згодна дадзеным з саміх прадпрыемстваў, яны з'яўляюцца прыбытковымі. МАЗ па выніках студзеня-верасня 2012 года павялічыў чысты прыбытак у 1,6 разы ў параўнанні з аналагічным перыядам 2011 года — да 1,106 трыльёна беларускіх рублёў. Пра гэта сведчаць дадзеныя справаздачы дэпартамента па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў Беларусі аб выніках дзейнасці ААТ за тры квартала мінулага года.

Дадзеныя па «Гарызонту» больш свежыя. Чысты прыбытак холдынгу «Гарызонт» па выніках 2012 года склаў 10,5 мільярда беларускіх рублёў. Такія звесткі апублікаваныя 5 красавіка ў справаздачы ААТ «Кіруючая кампанія холдынгу «Гарызонт» аб прыбытках і стратах. Нават у крызісным 2011 годзе чысты прыбытак кампаніі склаўся ў памеры 731 мільён рублёў. Гэтым мала хто можа пахваліцца.

Прафсаюзны дзеяч Аляксандр Бухвостаў кажа, што праблемы на МАЗе ўзніклі, пэўна, напярэдадні стварэння холдынгу з расійскім КАМАЗам. Па ягоных словах, няўпэўненасць у будучыні і стварыла «псіхалагічны фон» для такога крызісу.

Паводле прагнозаў Бухвостава, хуткі крызіс, аналагічны МАЗаўскаму, адчуюць і прадпрыемствы па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі, напрыклад, «Гомсельмаш». Гэта таксама будзе звязана са скарачэннем закупак прадукцыі.

Што ж тычыцца «Гарызонту», то Бухвостаў адзначыў, што ўся наша радыёэлектронная прамысловасць «альбо памерла, альбо знаходзіцца ў занядбаным стане».

Але ж гэта ўваходзіць у супярэчнасць з лічбамі прыбытку. На што Бухвостаў адказвае: і «Гарызонт», і МАЗ з'яўляюцца датацыйнымі прадпрыемствамі, якія кантралююцца дзяржавай і маюць дзяржаўныя прэферэнцыі. Таму б ён асабліва такім «нярынкавым» лічбам не давяраў бы.

«Перспектываў у «Гарызонта» няма. Хто будзе купляць тэлевізар «Гарызонт», калі за тую ж суму, калі не танней, можна ўзяць Samsung ці Sony?» — запытваецца Бухвостаў. І кажа, што «Гарызонту» ў свой час трэба было ўбудавацца ў транснацыянальны канцэрн, напрыклад, той жа Samsung. Так паступілі заводы Расіі, не трымаючыся за сваю марку, і зараз няблага сябе адчуваюць.

Але менавіта магчымасць скупкі прадпрыемстваў у гэтай сітуацыі павінна хваляваць больш за ўсё. Пра холдынг «МАЗ — КАМАЗ» усё амаль вырашана. Але не да канца. Тое ж самае можа адбыцца і з «Гарызонтам». Бо насамрэч гэта — патэнцыйна багатае прадпрыемства.

Што тычыцца ўзгаданых Бухвоставым Samsung ці Sony, то хутка ім будзе «перакрыты венціль» у такі буйны рынак, як Расія. Савет Еўразійскай эканамічнай камісіі ў сакавіку прыняў рашэнне падняць стаўкі ўвазных пошлін на асобныя віды тэлевізараў да 16% ад іх мытнага кошту. У лік трапіўшых пад павышэнне прылад уваходзяць, у прыватнасці, плазменныя і вадкакрышталічныя тэлевізары, якія ўключаюць у сябе «відэазапісвальную і відэаўзнаўляльную апаратуру». Для іх дзеючая стаўка складала 10%, а будзе 16%. Адначасова з 15% да 16% павышаецца стаўка для вадкакрышталічных тэлевізараў без функцыі відэазапісу. Пры гэтым для плазменных тэлевізараў без відэазапісу стаўка захаваецца на ўзроўні 15%.

Такім чынам, «Гарызонт» будзе мець прэферэнцыі на расійскім рынку амаль год — да жніўня 2014 года, калі Расіі давядзецца знізіць пошліны да 13,3% у адпаведнасці з патрабаваннямі Сусветнай гандлёвай арганізацыі.

У выніку — трэба шукаць тых, каму выгадныя праблемы беларускіх прадпрыемстваў. А выгадныя яны найперш тым, хто плануе «захапаць» беларускія прадпрыемствы.

Нагадаем, у адносінах МАЗа — гэта КАМАЗ, які зацікаўлены ў паніжэнні кошту беларускага прадпрыемства. Дзеля гэтага Расія можа і пачакаць з закупамі беларускай аўтатэхнікі. Калі прагноз Бухвостава спраўдзіцца ў дачыненні да «Гомсельмаша», то неўзабаве ўзгадаюць агучаную ў сярэдзіне 2012 года ініцыятыву па стварэнні холдынгу «Ростсельмаша» і «Гомсельмаша». Што тычыцца «Гарызонту», то пакуль прапановаў аб стварэнні нейкага адзінага холдынгу з расійскімі прадпрыемствамі не было. Але гэта не значыць, што «Гарызонт» немагчыма прадаць альбо купіць.

Свядомае банкруцтва паглынаемых прадпрыемстваў — нярэдкая, і, можна сказаць, звычайная практыка ў Расіі. Таму менеджменту прадпрыемстваў і дзяржаве трэба было б вельмі пільна ўглядзецца ў тое, хто стварыў умовы для крызісу на прадпрыемствах і хто мае намер іх «прыхватызаваць» бліжэйшым часам. А там, можа, мы і пабачым таго, хто вінаваты ў крызісе.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# САБЕС, ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ!

**Як паведаміў Белстат, намінальная сярэдняя налічаная зарплата ў студзені — лютым бягучага года склала 4 432,2 тыс. рублёў, у тым ліку ў лютым 4 504,8 тыс. рублёў, і павялічылася адносна студзеня на 3,1%, або на 136,8 тыс. рублёў.**



Паводле Белстата, апошняе месца па зарплаце займае адукацыя (3,127 млн. рублёў), а першае — працаўнікі фінансавай сферы (8,523 млн. рублёў). Вядома ж, што настаўнікі, працаўнікі палёў і ферм, як яны не шчыруюць кожны на сваёй ніве, але ніколі ім не атрымліваць заробак, большы хаця б за простых касірак банкаў.

Так яно заўсёды і было, бо ніколі ніхто меней за селяніна не атрымліваў. Бывае, такі ўжо дурань дурнем, такі пустамеля, вырвецца ў горад — і што б ні рабіў, у сэнсе нават і не рабіў, а атрымлівае болей. Праўда, неяк раней Лукашэнка расказваў журналістам, што недзе былі даяркі, якім плацілі аж па 700 долараў. Гэта столькі, колькі зараз у сярэднім атрымліваюць у прамысловасці.

Зразумела, у галінах прамысловасці, у розных вытворчасцях, існуе вялікая дыферэнцыяцыя. Прыкладам, у нафтаперапрацоўцы ў лютым атрымалі 8,9 млн. рублёў заробку, у хімічнай вытворчасці — 9,7 млн. рублёў. Сярэдні заробак мебельшчыкаў, якія ўключаны ў прыярытэтную групу па мадэрнізацыі вытворчасці, маюць толькі 4,2 млн. рублёў (43% ад заробкаў хімікаў). Не дзіва, што Лукашэнка пазбавіў мебельшчыкаў права звальняцца па ўласным жаданні, інакш разбягуцца, як казаў Папандопула, у розныя бакі.

Падаецца, што ўлады шчыруюць бізунамі, але не забываюць і пра пернікі. Так бы мовіць, праводзяць дзяржаўную палітыку заработнай платы. У каго заробкі невялікія, тым дадаюць болей. Таму аграрыям заробак падвысілі (адносна студзеня-лютага 2012 г.) амаль на 38%. Мебельшчыкам — на 32%, будаўнікам жа, якія выказалі рашучы настрой з'ехаць з гэтай краіны куды заўгодна, дзе добра плацяць, — на 44,4%.

Мусім заўважыць, што ўся гэта палітыка вызначаецца не падвышэннем эфектыўнасці вытворчасці, а пераразмеркаваннем. У адных бяруць, другім даюць. А яшчэ трацяць на гэта замежныя крэдыты. Зразумела, што мы ўсе ўрэшце працуем на Яго па найму, але непасрэдна гэта адбіваецца на бюджэтніках. Дакладней, на іх заробках. Як сведчыць Белстат, у параўнанні са снежнем-лютым 2012 года рэальны сярэдні заробак у адукацыі павялічыўся толькі на 1,7%. У аховы здароўя — на 4,8%, у сацыяльных паслугах — на 1,5%. Маўляў, сабес, дапамажы сабе сам! Кожны ж ведае, што ўлады імкнуцца да сацыяльнай справядлівасці. Таму і спрабуюць падзяліць набыткі ўсіх. Толькі неяк атрымліваецца, што адны працавалі менш, а атрымалі больш за ўсіх. Гэта філасофія такая, сацыяльная справядлівасць завецца, з ёй нічога не зробіш. Таму рэальныя заробкі паспяховых галін эканомікі штучна «прымаражваюцца». Прыкладам, рэальныя заробкі чыгуначнікаў падвысіліся толькі на 7,7%, лётчыкаў — на 12,5%. Затое рэальныя зарплаты транспартнікаў-рачнікоў падвысілся ў 1,5 разы.

Відавочна, што гэта робіцца дзеля таго, каб яны не з'ехалі ў іншыя краіны, як раней гэта ўпадабалі будаўнікі.



Калі зыходзіць з рэйтынгу заробкаў, які Белстат абраў для характэрных галін эканомікі, то апошняе месца (адукацыя) мае 370 долараў, першае (фінансавае дзейнасць) — 985 долараў, а сярэдні заробак складае 520 долараў. Адзначым, што Лукашэнка ўжо трэці раз падбіраецца да вяршыні сярэдняга заробку ў 500 долараў — напрыканцы 2008-га, напачатку 2011-га, і зараз, напрыканцы 2012-га ў сувязі з выплатай калядных ды навагодніх бонусаў. З кожным разам гэта важнейшае сацыльна-эканамічнае дасягненне праз месяц-другі правальвалася. Як і чакалі эканамічныя эксперты. І вось зноў рыса ў 500 долараў на спідометры, і зноў аналітыкі папярэджваюць — рэсурсы з краіны знікаюць.

Кожны мае права і магчымасць будаваць любы прагноз. Мы ж лічым, калі дзве дэвальвацыі — гэта выпадковасць. Трэцяя — гэта сумная заканамернасць. Гэта значыць, што беларуская эканоміка не дае беларусу зарабляць у сярэднім болей, чым 500 долараў.

На жаль, гэта мадэль і гэтае начальства больш людзям нічога даць не могуць. Пасля апошніх выбараў беларусам далі 500 долараў заробку. Колькі гвалту і шуму было. А праз месяц пачалі адбіраць «дасягненне», пакуль не скаціліся да Кыргызстана ды Малдовы.

Зараз, што называецца, адбілі сваё, а ў Казахстане і ў Расія сярэднія заробкі ўжо падвысіліся да 1000 долараў.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# КАМУ ТРЭБА СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ?

Генадзь КЕСНЕР

**Крымінальны кодэкс Беларусі прадугледжвае пажыццёвае зняволенне. Тым не менш беларускія суды выкарыстоўваюць у якасці найвышэйшай меры смяротнае пакаранне.**




## За што могуць расстраляць

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь (артыкул 24), «смяротнае пакаранне да яго адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна выраку суда».

Увогуле, гэтая мера пакарання можа прызначацца за дванаццаць катэгорыяў злачынстваў у мірны час і за дзве — у час ваенны. Напрыклад, у спісе катэгорыяў злачынстваў — «развязванне альбо вядзенне агрэсіўнай вайны» (частка 2 артыкула 122 КК РБ), «забойства прадстаўніка замежнай дзяржавы, міжнароднай арганізацыі з мэтай правакацыі міжнародных ускладненняў альбо вайны» (частка 2 артыкула 124), «міжнародны тэрарызм» (артыкул 126), «генацыд» (артыкул 127), «злачынствы супраць бяспекі чалавецтва» (артыкул 128).

Смяротнае пакаранне можа быць таксама прызначанае за «наўмыснае пазбаўленне жыцця пры абцяжарваючых абставінах» (частка 2 артыкула 139), «тэрарызм» (частка 3 артыкула 289), «тэрарыстычная акты» (артыкул 359), «здрада, спалучаная з забойствам» (частка 2 артыкула 356), «змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады» (частка 3 артыкула 357), «дыверсія» (частка 2 артыкула 360).

Да таго ж, расстраляць могуць за «забойства супрацоўніка міліцыі» (артыкул 362), «прымяненне зброі масавага паражэння» (артыкул 134), «забойства асобы падчас парушэння законаў і звычаяў вайны» (частка 3 артыкула 135).

Выкананне смяротнага пакарання ў выглядзе расстрэлу адбываецца ў СІЗА №1 МУС РБ у Мінску на вуліцы Валадарскага (Пішчалаўскі замак).

## Каго нельга расстраляць

У адпаведнасці з Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь, смяротнае пакаранне не можа быць прысуджана асобам, якія здзейснілі злачынствы ва ўзросце да васямнаццаці гадоў, жанчынам, а таксама мужчынам, якім на момант вынясення прысуду споўнілася шэсцьдзесят пяць гадоў.

## Альтэрнатыва расстрэлу

Трэба звярнуць увагу на тое, што ні ў адной з санкцыяў згаданых вышэй артыкулаў Крымінальнага кодэксу смяротная кара не прадугледжана як адзіна магчымае пакаранне.

Альтэрнатыва смяротнаму пакаранню ўпершыню была ўведзеная Законам Рэспублікі Беларусь ад 31 снежня 1997 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны і Папраўча-працоўны кодэксы Рэспублікі Беларусь». У адпаведнасці з гэтым актам у Крымінальны кодэкс упершыню была ўведзеная норма, якая прадугледжвала новы від крымінальнага пакарання ў выглядзе пажыццёвага зняволення.

Цяперашнім часам у Беларусі дзейнічае Крымінальны кодэкс, прыняты 9 ліпеня 1999 года (набыў сілу 1 студзеня 2001 года), якім смяротнае пакаранне прадугледжана ў якасці выключнай меры пакарання (артыкул 59) за некаторыя асабліва цяжкія злачынствы, спалучаныя з наўмысным пазбаўленнем жыцця чалавека пры абцяжарваючых абставінах. У адпаведнасці з тым жа артыкулам 59 КК РБ, смяротнае пакаранне ў парадку памілавання можа быць заменена пажыццёвым зняволеннем.

Тым не менш, нягледзячы на ўзаконеную альтэрнатыву, паводле дадзеных Міністэрства юстыцыі Беларусі, з 1994 па 2011 год да смяротнага пакарання былі прыгавораны 241 чалавек. Прычым «расстрэльныя» выракі выносіліся і пасля пачатку дзеяння новага КК. Праўда, той жа Мінюст паведамляе, што ў 2012 годзе ніводзін чалавек у Беларусі не быў прыгавораны да смерці.

Пры гэтым улады чамусьці адмаўляюцца паведамляць, колькі чалавек за гэты час было памілавана. Самы свежы прыклад — зварот па гэтую інфармацыю ў Адміністрацыю прэзідэнта праваабаронцы з Брэста Рамана Кісляка. Ён паведаміў агенцтву БелаПАН, што ў АП у прадастаўленні інфармацыі аб колькасці памілаваных сярод асуджаных на смяротнае пакаранне, пачынаючы з 1994 года, яму было адмоўлена. Сам Кісляк кажа, што, паводле ягоных (неафіцыйных) дадзеных, у Беларусі за апошнія дзевятнаццаць гадоў быў памілаваны як мінімум адзін чалавек.

Паводле незалежных экспертаў, высветліць дакладную колькасць прыгавораных да смерці, расстраляных і памілаваных практычна не магчыма.

## Пажыццёвае зняволенне

Яно прадугледжана ў Крымінальным кодэксе як альтэрнатыва смяротнаму пакаранню. Яно можа быць прызначана асобам, якія здзейснілі злачынства ва ўзросце да васямнаццаці гадоў, жанчынам, а таксама мужчынам, якім на момант вынясення прысуду споўнілася шэсцьдзесят пяць гадоў.

Асуджаныя да пажыццёвага зняволення адбываюць пакаранне ў папраўчай калоніі асаблівага рэжыму альбо ў турме. Па адбыцці дваццаці гадоў асобе, асуджанай да пажыццёвага зняволення, альбо асобе, якой смяротнае пакаранне ў парадку памілавання заменена пажыццёвым зняволеннем, суд, улічваючы стан здароўя ці ўзрост, а таксама паводзіны асуджанага, можа замяніць далейшае адбыванне пажыццёвага зняволення пазбаўленнем волі на пэўны тэрмін, але не звыш пяці гадоў.

## Страляюць, не чакаючы

Як адзначаюць праваабаронцы, смяротныя прысуды часам прыводзяцца ў выкананне яшчэ да заканчэння ўсіх прадугледжаных заканадаўствам і міжнароднымі нормамі працэдур.

Так, у 2009 годзе да смяротнага пакарання былі прыгавораныя Андрэй Жук (за ўзброены напад і забойства мужчыны і жанчыны) і Васіль Юзэпчук (за забойства шасці жанчынаў сталага веку). У кастрычніку 2009 года асуджаныя на смерць падалі скаргу ў камітэт ААН па правах чалавека. Гэты Камітэт заклікаў беларускі ўрад не выконваць смяротныя прысуды да разгляду скаргаў. Тым не менш, абодвух мужчын расстралялі яшчэ ў 2010-м годзе — да разгляду іх скаргаў.

Вялікі розгалас як у Беларусі, так і па-за яе межамі мела справа аб выбуху ў Мінскім метрапалітэне, які адбыўся 11 красавіка 2011 года. Вінаватымі ў здзяйсненні злачынства былі прызнаныя жыхары Віцебшчыны дваццаціпяцігадовыя Дзмітрый Канавалаў і Уладзіслаў Кавалёў, якіх Вышэйшы суд Беларусі таксама прыгаварыў да смяротнага пакарання. У вялікай колькасці назіральнікаў як следства, так і суд выклікалі шэраг пытанняў. Тым больш, што Уладзіслаў Кавалёў не прызнаў сваёй віны і падчас суда заявіў пра аказанне на яго ціску цягам папярэдняга следства.

Кавалёў і ягоны абаронца таксама накіравалі скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. Як і ў выпадку з Жуком і Юзэпчуком, Камітэт ААН заклікаў кіраўніцтва Беларусі не прыводзіць прысуд у выкананне да разгляду скаргі. Тым не менш, усяго праз некалькі месяцаў пасля вынясення смяротнага выраку (30 лістапада 2011 года) Канавалаў і Кавалёў былі расстраляныя (сярэдзіна сакавіка 2012 года). Пазней Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў недахопы падчас следства і суда і прыйшоў да высновы, што беларуская дзяржава парушыла галоўнае права Уладзіслава Кавалёва (Канавалаў, які падчас суда не сказаў амаль аніводнага слова, у Камітэт ААН не звяртаўся) — права на жыццё.

Трэба адзначыць, што сваякам расстраляных не паведамляюць ні дакладны час прывядзення прысуду ў выкананне, ні месца пахавання, не кажучы ўжо пра выдачу цела расстралянага. Маці Уладзіслава Кавалёва Любоў Кавалёва пачала шырокую кампанію не толькі ў абарону добрага імя свайго сына, але за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі ўвогуле. Жанчына таксама патрабуе выдаць ёй цела сына і ягоныя дзённікі, якія Уладзіслаў вёў, знаходзячыся за кратамі.

## Расстрэлы можна адмяняць

11 сакавіка 2004 года Канстытуцыйны суд (КС) Рэспублікі Беларусь вынес заключэнне № 3-171/2004 па справе «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным дамовам Рэспублікі Беларусь палажэнняў Крымінальнага кодэкса РБ, якія прадугледжваюць прымяненне ў якасці пакарання смяротнай кары». У сваім рашэнні КС звярнуў увагу, што норма часткі 3 артыкула 24 Канстытуцыі, якая дапускае пакаранне ў выглядзе смяротнае кары, адначасова ўтрымлівае і ўказанне на яе выключны і ЧАСОВЫ характар.

У заключэнні КС адзначана, што непрымяненне смяротнага пакарання на еўрапейскім кантыненце стала агульным правілам. Дзяржавы — чальцы Савета Еўропы, якія падпісалі і ратыфікавалі Еўрапейскую Канвенцыю аб абароне правоў чалавека і асноўных свабодаў 1950 года і Пратаколы да яе № 6 ад 28 красавіка 1983 года і №13 ад 3 траўня 2002 года, абавязаныя выключыць прымяненне смяротнага пакарання.

У той жа час Канстытуцыйны суд адзначае, што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца чальцом Савета Еўропы, і ў звязку з гэтым для яе выкананне згаданых дакументаў не ёсць абавязковым. Не ратыфікаваны і Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які таксама абавязвае кожную дзяржаву — удзельніцу гэтага пратакола зрабіць усе неабходныя захады для адмены смяротнага пакарання ў рамках сваёй юрысдыкцыі. Паколькі згаданыя вышэй міжнародныя дамовы не ратыфікаваныя, што абумовіла б паводле артыкулаў 8 і 116 Канстытуцыі Беларусі вяршэнства міжнародных актаў у сістэме нацыянальнага права, КС прыйшоў да высновы, што ў сучасных умовах пытанне аб адмене гэтага віду пакарання альбо аб увядзенні мараторыя на яго прымяненне можа быць вырашана прэзідэнтам РБ і парламентам.

Такім чынам, з дакумента КС вынікае, што ніякага рэферэндуму аб адмене смяротнага пакарання, пра што шматкроць казаў дзеючы кіраўнік дзяржавы, спасылаючыся на выніку плебісцыту 1996 года, не патрабуецца. Бо, яшчэ раз падкрэслім, смяротнае пакаранне ў Асноўным законе Беларусі прапісана як ЧАСОВАЯ мера.

## Чаму нельга прымяняць смяротнае пакаранне

Як лічыць кіраўнік юрыдычнай камісіі Беларускага Хельсінскага камітэту Гары Паганяйла, выкарыстоўваць расстрэл нельга не толькі таму, што ёсць стандарты, што ёсць грамадская мараль. «Справа ў тым, што сёння суды ўсё ж недасканалыя, ёсць верагоднасць судовай памылкі, асабліва па крымінальных справах. У крымінальным працэсе высветліць «ісціну ў апошняй інстанцыі» практычна не магчыма. Можна наблізіцца да яе, але не ўстанавіць. У звязку з гэтым лічыцца немагчымым прымяненне смяротнага пакарання, таму што такая мера ёсць незваротнай. Ёсць дзясяткі прыкладаў, калі праз некалькі гадоў высвятляюць, што людзі, прыгавораныя да смяротнага пакарання, не здзяйснялі злачынства. Падобныя гісторыі меліся і ў сучаснай Беларусі», — адзначаў юрыст.

Дастаткова прыгадаць толькі сумна вядомую «Віцебскую справу», калі яшчэ да таго, як злавілі сапраўднага маньяка — забойцу жанчын Генадзя Міхасевіча, аднаго чалавека расстралялі, трох асудзілі на пятнаццаць гадоў зняволення і яшчэ некалькіх — да меншых тэрмінаў пазбаўлення волі.

А тым часам Беларусь застаецца адзінай краінай не толькі ў Еўропе, але нават на тэрыторыі ўсяго былога СССР, у якой дагэтуль выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды. І адзінай дзяржавай на кантыненце, якая не з'яўляецца чальцом Савета Еўропы. Бо адмена смяротнага пакарання ці хаця б увядзенне мараторыя на расстрэлы ёсць адной з галоўных умоваў сяброўства ў СЕ.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 17 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Матулі».
**10.05** Серыял «Джамайка».
**10.55** Серыял «Мудрагелістыя светы».
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Заўтра - гэта мы!
**13.10** Рэальны свет.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-6».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Меладрама «Жамчужына палаца».
**16.40** Зямельнае пытанне.
**17.10** Медычныя таямніцы.
**17.40** Серыял «Матулі».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** «Зона Х».
**19.55** Серыял «Джамайка».
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-6».
**23.35** Дзень спорту.
**23.50** Меладрама «Жамчужына палаца».

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Серыял «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Два з паловай чалавекі». .
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Серыял «Пад прыкрыццем».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Асяроддзе пасялення.
**01.00-01.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 га-дзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40, 20.10, 22.55** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT». Серыял.
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Камедыя «Оскар».
**15.30** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Сябры і палюбоўнікі».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец». Серыял.
**01.05** «Нам і не снілася».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі» (Расія). 3-я серыя.
**10.15** Наперад у мінулае.
**10.50** Серыял «Магія прыроды».
**11.35** Камедыя-фарс «Даун Хаўс» (Расія).
**13.15** Дэтэктыў «Непрыдуманае забойства».
**15.35** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат РБ.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**22.45** Камедыя «Вольнае плаванне».
**00.35** Серыял «Магія прыроды».

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Жаночая праца з рызыкай для жыцця».
**09.15** «Справа Х». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** Прэм'ера. Сведкі.

### НТВ

**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Прэм'ера. Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Лютасць».

### МИР

**05.00** Прафілактыка.
**09.10** «Дынастыя».
**10.00** Маст. фільм «Развітальныя гастролі».
**11.30** «Незорнае дзяцінства».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** «Даведнік».
**12.55** Серыял «Поспехаў табе, шпік!».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Серыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55** Фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Серыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.25** «Даведнік».
**01.50** Серыял «Закон і парадак».
**03.40** Фільм «Эпоха. Падзеі і людзі».
**04.25** «Сакрэтныя матэрыялы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.15** «Доктар Марцін», серыял
**11.00** Вагон.
**11.10** Форум (ток-шоў).
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Рэмарка.
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** На колах
**15.10** «Доктар Марцін», серыял.
**16.00** Форум (ток-шоў).
**16.50** «Час гонару», серыял.
**17.35** Асабісты капітал.
**18.00** Праект «Будучыня»
**18.25** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права.
**21.00** Аб'ектыў.
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** «Ночы і дні», серыял.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Невядомая Беларусь.
**23.30** Студыя «Белсат».
**01:10** Маю права.
**01:30** Аб'ектыў.
**01:55** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 18 КРАСАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Матулі» (Расія).
**10.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нашы.
**13.00** Нябачны фронт.
**13.15** Рэальны свет.
**13.50** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна). 3-я серыя.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Каробка перадач.
**17.10** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.40** Серыял «Матулі» (Расія).
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** «Зона Х».
**19.55** Серыял «Джамайка.
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-6».
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Пад прыкрыццем».
**23.20** Камедыя «Дурнаваты прафесар».
**01.10-01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT». Серыял.
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Сябры і палюбоўнікі».
**15.40** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Параграф 78. Фільм другі».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец». Серыял.
**01.05** «Нам і не снілася».

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі» (Расія). 4-я, заключная, серыя.
**10.20** Вышэй за дах.
**10.50** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.30** Камедыя «Вольнае плаванне» (Расія).
**13.50** «Альпійская балада» (СССР).
**15.35** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Прыгодніцкі вестэрн «Вадаспад Анёла» (ЗША).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**22.40** Час футболу.
**23.25** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** Прэм'ера. «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.05** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія жонкі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Прэм'ера. Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Лютасць».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультфільмы.
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў пошуках смаку».
**07.20** Серыял «Пяць мінут да метро».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** Маст.фільм «Мелодыі белай ночы».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** «Дыяспары».
**12.55** Маст.фільм «Вяселле на пахаванні».
**14.45** «Кыргызстан у асобах».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Серыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** Фільм «Адно жыццё - адна каманда».
**22.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.15** Серыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**01.00** Серыял «Закон і парадак».
**02.50** Фільм «Адзін лёс - адна каманда».
**03.40** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 9 серыя.
**11.05** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**11.25** Студыя «Белсат».
**13.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.25** Аб'ектыў.
**13.50** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.10** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.40** «Ночы і дні», серыял: 9 серыя.
**15.35** Два на два (тэледыскусія).
**16.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.10** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**16.30** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**16.55** «Час гонару», серыял: 24 серыя.
**17.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Горад з мора», серыял: 3 серыя.
**22.30** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**22.40** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01:10** Аб'ектыў.
**01:40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01:55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 19 КРАСАВІКА, ПЯТНІЦА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.00** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Канцэрт
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нябачны фронт.
**13.10** Рэальны свет.
**13.45** Народная камедыя «Сваты-6» (Расія-Украіна). 4-я серыя.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**17.45** Камедыйны серыял «Матулі» (Расія).
**19.20, 22.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Дыялогі пра цывілізацыю.
**23.15** Дзень спорту.
**23.30** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здаровейка!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.15** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Утаймаванне свавольнай».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.30** Прэм'ера. Фільм «Сухадол».
**02.20-02.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Згодна з законам».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «NEXT 2». Серыял.
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Параграф 78. Фільм другі».
**15.30** «Хораша жыць».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Шанцуе як тапельцу».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа богаў».
**23.50** «Баец». Серыял.
**00.45** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.35** Фільм «Сцены».
**03.20** «Глядзець усім!».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Мой асабісты вораг».
**10.20** Час футболу.
**11.05** Дакументальны серыял «Магія прыроды» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.40** Цела чалавека.
**12.20** Прыгодніцкі вестэрн «Вадаспад Анёла» (ЗША).
**14.30** Трагікамедыя «Вяселле» (Расія - Францыя - Германія).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Гандбол. Чэмпіянат Беларусі. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**20.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Арэна.
**22.05** Фактар сілы.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.25** Містычная драма «Слепата» (Канада - Бразілія - Японія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** Прэм'ера. «Права на сустрэчу».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.55** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Бумеранг з мінулага».
**21.30** «Аншлагу-25». Вялікі юбілейны вечар.
**23.15** Навіны - Беларусь.
**23.25** «Аншлагу-25». Вялікі юбілейны вечар. Працяг.

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Прэм'ера. Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія жонкі».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** «Таямнічая Расія».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Ляснік».
**21.15** Прэм'ера. Дэтэктыў «Чужы раён-2».
**23.50** Вострасюжэтны фільм «Час грахоў».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультфільмы.
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў пошуках смаку».
**07.20** Серыял «Пяць мінут да метро».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Фільм «Адзін лёс - адна каманда».
**10.00** Маст.фільм «Сяпод тысячы дарог».
**11.30** «На шашлыкі».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** «Сардэчна запрашаем».
**12.55** Маст.фільм «Маленькія людзі».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Фільм «На біс! Ці староннім уваход дазволены».
**19.35** Канцэрт «Stomp».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** Маст.фільм «Цішыня».
**00.40** Серыял «Трыццаць выпадкаў з жыцця маёра Земана».
**02.10** «Сардэчна запрашаем».
**02.40** Маст.фільм «Сяпод тысячы дарог».
**04.00** Фільм «На біс! Ці староннім уваход дазволены».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Горад з мора», серыял: 3 серыя.
**10.55** Назад у будучыню.
**11.05** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**11.15** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.45** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** «Горад з мора», серыял: 3 серыя.
**15.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.10** «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**17.05** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**17.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Палітыканы», серыял: 8 серыя.
**22.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.05** Студыя «Белсат».
**00.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01:05** Аб'ектыў.
**01:30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01:50** Вагон.

## 20 КРАСАВІКА, СУБОТА

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.55** Камедыя «Не можа быць!» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Серыял «Вясковая камедыя».
**10.45** Здароўе.
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Камедыя «Гараж» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкая камедыя «101 далмацін» (ЗША).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.10** Eurovision. Вынікі тыдня.
**19.30** Меладрама «Адліга» (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Трылер «Без твару» (ЗША).
**00.05** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Фільм «Дума».
**13.40** «Абракадабра».
**15.00** Прэм'ера. «Перавал Дзятлава. Адлічаны з прычыны смерці».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**17.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**17.50** Прэм'ера. «Куб».
**18.55** АНТ прадстаўляе: «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05-02.00** Камедыя «Голы барабаншчык».

### СТВ

**06.35** «Салдаты». Серыял.
**07.25** «Анфас».
**07.40** Фільм «Шанцуе як тапельцу».
**09.30** «Уявіце сабе».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.40** «Чыстая праца».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». СССР, 1987 г. 3-я серыя.
**14.55** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Кахаць па-руску 2».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу «Тэлевяршыня».
**22.45** «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.55** «Дзіўная справа».
**00.45** Фільм «Закаханыя». Італія-Францыя, 1968 г.
**02.10** «Дурні, дарогі, грошы».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.25** Мультфільм «Айбаліт і Бармалей».
**07.45** Музычная казка «Туфлі з залатымі спражкамі» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**09.55** Пазакласная гадзіна.
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Трагікамедыя «Вяселле» (Расія - Францыя - Германія).
**12.30** Наперад у мінулае.
**13.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.40** Беларуская кухня.
**14.15** Мазгавы штурм.
**14.50** Містычная драма «Плецены чалавек» (ЗША - Германія ).
**17.00** Фантастычная камедыя «Джэк» (ЗША).
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Вышэй за дах.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Імперыя песні.
**22.20** Містычны баявік «Ван Хельсінг» (ЗША - Чэхія).
**00.45** Містычная драма «Плецены чалавек» (ЗША - Германія).

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Пясчаны дождж» (2008 г.).
**08.40** Фільм «Гувернантка» (2009 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Prотурызм».
**12.10** Фільм «Старыя сцены».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**15.30** Фільм «Адкрыйце, гэта я!» (2011 г.).
**17.10** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Васількі» (2013 г.).
**00.00** Фільм «Алібі надзея, алібі каханне» (2012 г.).

### НТВ

**06.25** Серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Рэпартаж лёсу».
**15.10** «Судовы дэтэктыў».
**16.20** «Следства вялі.».
**17.15** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Мент у законе-6».
**19.00** Сёння.
**19.25** Прэм'ера. Вострасюжэтны дэтэктыў «Мент у законе-6».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.05** «Ты не паверыш!».
**23.05** Вострасюжэтны фільм «Я пакажу табе Маскву».
**00.40** «Прамень святла».
**01.10** «Рэакцыя Васэрмана».

### МИР

**05.00** Фільм «Дзяржаўны Эрмітаж «.
**05.35** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10** Маст.фільм «Прыйшла і кажу».
**11.50** Фільм «Першыя пасля Алы».
**12.45** Канцэрт «Пацалунак на біс».
**14.00** Фільм «У свеце зорак. Дзеці сваіх бацькоў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** «Па шчырасці».
**15.40** Серыял «Атлантыда».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.50** Маст.фільм «Спадарожнікі».
**22.45** «Музычны ілюмінатар».
**23.15** Серыял «Атлантыда».
**03.40** Маст.фільм «Падкідыш».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.50** Казкі для дзетак: «Падарожжа Цюхці, поўнае прыгодаў», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры Яблыкі», «Пацукі».
**12.15** «Горад з мора», серыял: 3 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 23 серыя.
**13.50** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**14.35** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**14.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**15.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Найважнейшая бітва Чэрчыля».
**15.50** «Мітумба: шляхам сэканд-гэнду», дак. фільм, 2005 г., Італія–Германія.
**16.50** «Палітыканы», серыял: 8 серыя.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 16 серыя.
**18.05** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Назад у будучыню.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Доўгае падарожжа праз гісторыю Балканаў», дак. фільм, 2010 г., Сербія.
**20.00** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 27.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**23.25** ПраСвет.
**23.50** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**24.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 21 КРАСАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Камедыя «Гараж» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Кулінарная дыпламатыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Не можа быць!» (СССР).
**14.00** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Анімацыйны фільм «Дабрыня Мікіціч і Змей Гарыныч» (Расія).
**16.40** Заўтра - гэта мы!
**17.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**18.10** Дакументальны серыял «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**19.10** Меладрама «Рыта» (Расія).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Гангстарская драма «Недатыкальныя « (Францыя-Бельгія).
**00.20** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.25** Прэм'ера. «Раманавы. Містыка царскай дынастыі».
**13.25** Камедыя «Апякун».
**15.00** «Асяроддзе пасялення».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.00** Прэм'ера. Фільм «Мушкецёры».
**20.00** Контуры.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Дыханне планеты».
**21.40** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.45** Вострасюжэтны фільм «Гарачыя галовы 2».

### СТВ

**06.40** «Салдаты». Серыял.
**08.20** Фільм «Заканаханыя». Італія-Францыя, 1968 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». СССР, 1987 г. Заключная серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Прэм'ера. Фільм «Галоўная вуліца». ЗША, 2010 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Тэтра». ЗША, 2009 г.
**01.55** «Дурні, дарогі, грошы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Мультфільмы.
**08.00** Прыгодніцкі фільм («Беларусьфільм»).1-я і 2-я серыя.
**10.15** Пазакласная гадзіна.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Пра мастацтва.
**11.10** Містычны баявік «Ван Хельсінг» (ЗША - Чэхія).
**13.40** Лірычная камедыя «Пакроўскія вароты» (СССР).
**16.20** Футбол. Чэмпіянат свету 2014.
**16.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Ліверпуль - Чэлсі.
**23.40** Спорт-кадр.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Васількі» (2013 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Елкі-палкі!.».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.10** «Палярны гамбіт. Драма ў цені легенды».
**16.00** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.35** Фільм «Адкрыйце, гэта я!» (2011 г.).
**18.15** Прэм'ера. «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Прэм'ера. «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.25** Дэтэктыўны серыял «Алібі» на дваіх».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**16.55** Выратавальнікі.
**17.25** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** «Жалезныя лэдзі».
**22.25** Святочны канцэрт.
**00.00** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.
**00.40** «Першая кроў».

### МИР

**05.00** Фільм «Дзяржаўны Эрмітаж».
**05.35** Мульфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30** Маст.фільм «Чандні».
**13.50** Фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Серыял «Я шпік».
**20.00** «Разам».
**21.00** Серыял «Я шпік».
**21.50** Маст.фільм «Ноч і горад».
**23.45** Маст.фільм «Чандні».
**03.05** Маст.фільм «Трактарысты».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 16 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак.
**12.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 16 серыя.
**12.35** «Час гонару», серыял: 24 серыя.
**13.25** «Ночы і дні», серыял: 9 серыя.
**14.20** «Чэшская мара», дак. фільм, 2004 г., Чэхія.
**15.55** «Апантаныя 2», дак. цыкл.
**16.05** «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Невядомая Беларусь: «Чарнобыль для Еўропы», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Забойцы».
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Дакументальная гадзіна: «Крама ў Парыжы. Усходняя бакалея «У Хэрач'яна»», дак. фільм, 2006 г., Германія.
**20.25** Zeroes Heroes (рэтраспекцыя блізкай гісторыі).
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоу).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Белы аленадр», маст. фільм, 2002 г., ЗША–Германія.
**00.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 27.
**01.15** Два на два (тэледыскусія).
**01.40** Вагон.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Юрый; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход. по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

ВЫБАРЫ

# ШАСЦЁРА СМЕЛЫХ

Алег НОВІКАЎ

**У Венесуэле блізіцца да завяршэння кампанія па выбарах прэзідэнта. Акрамя фаварытаў — Нікаласа Мадура і Энрыке Капрылеса — свае кандыдатуры выставілі яшчэ шэсць палітыкаў.**

Шансаў у гэтай шасцёркі няма. Венесуэльская грамадскасць цяпер палярызаваная. За прадстаўнікоў лагеру Чавеса і апазіцыі, паводле апытанняў, збіраюцца галасаваць да 85–90 працэнтаў электарату. Дарэчы, лідзіруе ў гонцы Мадура, які называе сябе «Сын Чавеса». Ён адарваўся ад Капрылеса, паводле розных крыніц, на 12–20 працэнтаў. Праўда, гэта дадзеныя за сакавік.

Вяртаючыся да дробных кандыдатаў, адсутнасць відавочных перспектыў не значыць, што ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах варта ўспрымаць як звычайны піяр ці капрыз. Гэта шмат у чым стаўка на заўтра, паколькі запыт на «трэцюю» сілу ў Венесуэле сапраўды расце. Ужо зараз усё гучней чуваць галасы супраць падзелу венесуэльцаў на антаганістычныя фракцыі — чавістаў і антычавістаў. Выйсцем з канфрантацыі можа стаць з'яўленне на палітычнай арэне нейкага кампраміснага палітыка, які зможа прымірыць увесь соцыум.



Нікалас Мадура

На лаўры прызідэнта-міратворцы прэтэндуе перш за ўсё Марыя Балівар. Па прафесіі Марыя — юрыст, уладальнік хлебапякарні, кандыдат ад Дэмакратычнай партыі «За мір і свабоду» (PDUPL). Нягледзячы на тое, што на мінулых выбарах яна набрала сціплых 7 тысяч галасоў, а на выбарах на пасаду губернатара штату (снежань 2012 года) увогуле атрымала ўсяго 620 галасоў, Марыя — дастаткова заўважная фігура. У тым ліку і таму, што яе прашчурам быў сам Сімон Балівар — адзін з заснавальнікаў венесуэльскай дзяржавы. Акрамя таго, Марыя Балівар стала вядомай як удзельнік шматлікіх палітычных шоў.

Яна ахвотна эксплуатуе тэму падзелу венесуэльскага грамадства і лічыць, што выключна жанчына здольная ўсталяваць гармонію. Дапамагаць у гэтым ёй будзе інтэрнэт. Дзякуючы IT-тэхналогіям Балівар збіраецца падключыць кожнага венесуэльца да прыняцця рашэнняў мясцовай адміністрацыі. Яна называе гэта participativo directo. У іншым яе праграма дастаткова ліберальная: за кошт лібералізацыі курсу долара ў краіне будзе знішчана інфляцыя, праз адмену фіксаваных коштаў знікне чорны рынак прадуктаў і будзе вырашана прадуктовая праблема.



Энрыке Капрылес

Марыя Балівар — не адзіная жанчына, якая кінула выклік тандэму Мадура — Капрылес. У спісе кандыдатаў таксама Рэйна Секера (Reina Sequera), прафсаюзны лідар, сябра лейбарысцкай партыі. Праўда, Рэйна, у адрозненні ад Марыі, адмаўляецца ад іміджу палітыка, які збіраецца шукаць кансэнсус. Як прадстаўнік левай партыі, яна лічыць, што ўсе сілы грамадства павінны быць кінутыя на барацьбу з беспрацоўем і беднасцю. Па яе разліках, Венесуэла — адна з самых багатых у свеце энергетычных краін — здольная паклапаціцца аб тым, каб асабісты банкаўскі рахунак кожнага грамадзяніна мільён долараў ЗША. Рэцэпт рашэння ўсіх сацыяльных праблем па-сутнасці дубліруе праграму Мадура, за выключэннем таго, што тут няма столькі негатыву на адрас імперыялістаў. Дарэчы, на прэзідэнцкіх выбарах 2012 года Рэйна атрымала 0,47 працэнта і, такім чынам, заняла ганаровае трэцяе месца пасля Чавеса і, адпаведна, Капрылеса.

Увогуле, Рэйна і яе партыя прадстаўляюць сабой прыклад эвалюцыі левай апазіцыі Чавесу, або хутчэй тое, што ад яе засталося. Як вядома, прыход Чавеса ў палітыку напрыканцы 1990-х гадоў разбурыў тагачасную партыйную канфігурацыю. Тыя ж старыя левыя былі вымушаны пераходзіць у апазіцыю або інтэгравацца ў шэрагі чавістаў. Апошнімі з магікан засталіся невялікія партыі, накшталт лейбарыстаў, якія трымаюцца класічных марксісцкіх дэфініцый палітычных працэсаў, адпаведна якім Чавес — проста папуліст з левай рыторыкай. Праўда, не факт, што Лейбарысцкая партыя не падзеліць лёс іншых левых груповак. Апазіцыя, каб змагацца за галасы, актыўна выкарыстоўвае сацыял-дэмакратычныя лозунгі, што прывабліваюць шмат левых, якія не знайшлі агульнай мовы з Уга. У апаненты Чавеса запісаліся такія вядомыя левыя партыі, як «Рух да сацыялізму», «Радзіма для ўсіх», частка прафсаюзаў і г.д. Магчыма, Рэйна таксама хутка працягне тую тэндэнцыю.

На выбарах 2012 года амаль на фінішы яна нечакана падтрымала Капрылеса, што не спадабалася яе аднапартыйцам. Апошнія заклікалі не галасаваць за Рэйну. Аднак тут жа знайшоўся эрзац у выглядзе партыі «Unidad Democratica», якая не магла вызначыцца з кандыдатам. «Unidad Democratica» падтрымала Рэйну Секеру, што нечакана для ўсіх забяспечыла ёй бронзу.

Калі ўжо гаворка пра сітуацыю на левым флангу венесуэльскай палітыкі, то, канешне, трэба адзначыць фігуру Фрэдзі Табаркіна ад левай партыі «Арганізаваная моладзь Венесуэлы», якую часта называюць проста Joven. Joven, якая паўстала ў 2006 годзе, у адрозненні ад Лейбарысцкай партыі, самая што ні ёсць прачавісцкая групоўка. Аднак функцыянеры Чавеса ў праўладны блок партый Joven упарта не запісваюць. У выніку «Арганізаваная моладзь Венесуэлы» вымушана выступаць за Баліварыянскую рэвалюцыі абсалютна аўтаномна.

Што тычыцца больш правых за Капрылеса кандыдатаў, то тут усім дасць фору Эйсебіа Мэндэс — малады пастар, кандыдат ад партыі «Новы погляд для маёй краіны» (NUVIPA). NUVIPA ўзнікла толькі ў чэрвені мінулага года і будуе сваю праграму на тэкстах Бібліі і дзеючай Канстытуцыі. Увогуле, партыя лічыць сябе прадстаўніком паслядоўных венесуэльскіх хрысціян, якія могуць даць, як сцвярджаецца ў партыйных матэрыялах, як мінімум 5 мільёнаў (максімум — 12 мільёнаў) галасоў на выбарах. З улікам таго, што ў Венесуэле галасуюць каля 15 мільёнаў, гэтага, як лічаць прыхільнікі Мэндэса, дастаткова, каб перамагчы як афіцыйнага кандыдата, так і галоўнага кандыдата ад апазіцыі.

У аснове крытыкі Нікаласа Мадура з боку NUVIPA — дачыненне чавісцкага ўраду да карупцыйных скандалаў і той факт, што Мадура з'яўляецца паслядоўнікам вядомага індыйскага гуру Саі Бабу, які абвяшчаў сябе ўвасабленнем Крышны, Буды, Ісуса Хрыста, не кажучы пра тое, што шмат хто лічыў яго ашуканцам. Што тычыцца адмоўнага стаўлення да Капрылеса, то яму дастаецца ад NUVIPA за падтрымку руху геяў і прыналежнасць да 300 самых багатых венесуэльскіх фамілій, якія нясуць гістарычную адказнасць за беднасць простых венесуэльцаў.

Застаецца Хулія Мора, сябра «А'яднанай дэмакратычнай партыі» (UDEMO). Хулія — самы экзатычны кандыдат, уся праграма якога змяшчаецца ў тры абзацы. Галоўнае абяцанне — у выпадку перамогі «гарантаваць максімальнае развіццё краіны».

Калі працягнуць праекцыі венесуэльскай сітуацыі на Беларусь, то рэзюмэ відавочна: супрацьстаяць афіцыйнаму кандыдату эфектыўна здольны выключна «адзіны». Аднак такія паралелі ўсё ж вельмі штучныя з улікам абсалютна іншай мадэлі арганізацыі дэмакратычных сіл, іх палітычнай культуры і, нарэшце, незвычайных абставін. Выбары 2013 года ў Венесуэле абсалютна ўнікальныя, паколькі праціўнікам Капрылеса выступае дэ-факта нябожчык Уга Чавес, на эксплуатацыі спадчыны якога будуецца ўся кампанія Нікаласа Мадура.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Да з'яўлення інфармацыі пра судовы разгляд справы аб экстрэмізме ўся гэтая гісторыя з фотаальбомамі ўспрымалася як недарэчнасць, паколькі сказаць, што фатаграфія нешта скажае, даволі складана. Па патрабаванні Аляксандра Лукашэнкі ў краіне створана такая сістэма барацьбы з іншадумствам, якая робіць стаўку нават не на яго падаўленне, а на прафілактыку. Шматлікія прафесіяналы адмаўляюцца працаваць у такіх умовах, і на кіруючых пасадах у краіне ўсё часцей аказваюцца недалёкія, абмежаваныя людзі. У гісторыі з фотаальбомамі спадзявацца можна толькі на тое, што з Мінска ўсё ж такі паківаюць гродзенскім пільным чыноўнікам, і гісторыю неяк замнуць.

**«Независимая газета» (Расія)**

Падручнік «Гродназнаўства» — толькі адна з прычын, па якіх вырашана нанесці ўдар па гродзенскіх гісторыках. А ў ліку іншых — помста чыноўнікаў за ўмяшанне незалежных краязнаўцаў у палітыку знішчэння будынкаў у ахоўным дзяржавай гістарычным цэнтры Гродна, якая наводзіць на падазрэнні ў карупцыі. Улады не жадаюць, каб гродзенцы кантралявалі распродаж участкаў зямлі ў горадзе.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Беларуская апазіцыя радасна загаласіла, абвясціўшы святкаванні 175-й гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, польскага паўстанца і русафоба. Цікава, што святочныя мерапрыемствы прайшлі не дзе-небудзь на водшыбе, а ў дзяржаўнай філармоніі ў Мінску. У апошні час афіцыйны Мінск становіцца да празаходніх сілаў усе больш лаяльным. Гуляючы на супярэчнасцях Расія–Захад, Лукашэнка спрабуе ўтрымацца ва ўладзе.

**«Сегодня» (Расія)**

Аб'ява аб новай трубаправоднай будоўлі стала сусветнай сенсацыяй, бо наўрад ці хто чакаў, што пасля пачатку будаўніцтва «Паўднёвага патоку» і другой чаргі газапровода «Nord Stream», Газпром пачне падрыхтоўку яшчэ аднаго трансканытынентальнага газаправода. Безумоўна, пэўная містыка ў дадзеным распачынанні прысутнічае, і заключаецца яна ў тым, што Беларусь на цырымоніі падпісання кантракта не згадвалася. Няма беларускага транзіту. Можна будаваць, як гаворыцца, па галовах беларусаў усё, што заўгодна. Так з часам, вырашыўшы праблему БЧ, падпішуць кантракт з Польшчай і Германіяй аб будаўніцтве звышхуткаснай магістралі «Берлін—Масква» без прыпынку ў Мінску. Сапраўды, а навошта...

**«Politobzor» (Расія)**

Для расіяніна, асабліва фінансава пісьменнага, цяперашняя сітуацыя ў Беларусі — напамін пра 1998 год. Назіраецца дакладна такая ж камбінацыя макраэканамічных фактараў: дэфіцытны бюджэт, слабы бягучы рахунак плацежнага балансу, высокая інфляцыя, фіксаваны курс, завоблачныя працэнтныя стаўкі. Пятнаццаць гадоў таму ў Расіі гэта скончылася дэфолтам па дзярждоўгу, банкруцтвам банкаў, кратным падзеннем курсу рубля, зменай урада, а крыху пазней — і прэзідэнта. Нешта падобнае, відавочна, чакае і Беларусь. З той толькі розніцай, што рэжым Лукашэнкі — хоць і тэарэтычна — можа разлічваць на дапамогу Крамля. На тое, што авантуры ў галіне эканамічнай палітыкі будуць аплачаныя не толькі даверлівымі ўкладчыкамі беларускіх банкаў, але і расійскімі падаткаплацельшчыкамі.

**«Коммерсант» (Расія)**

Пасля вестак пра тое, што ў суседніх Літве і Польшчы былі знойдзеныя радовішчы сланцавага газу, у 2010 годзе прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў знайсці іх і ў Беларусі, каб паменшыць залежнасць эканомікі краіны ад паставак газу з Расіі. Доўгі час пошук сланцавага газу ў Беларусі прызнавалі бесперспектыўным з-за яго дарагой здабычы. Але, на думку беларускіх чыноўнікаў, павышэнне коштаў на паліва і ўдасканаленне тэхналогій робіць яго здабычу эканамічна выгаднай.

**«Хвиля» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. НАСТУПНЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ БУДЗЕ ГАРЫ ПОТЭР?

Расію ахапіла новая мода — высоўваць сябе кандыдатам на пасаду прэзідэнта на выбарах 2018 года. Першым, як вядома, вырашыў падацца ў расійскія гаранты апазіцыйны блогер Аляксей Навальны. На наступны дзень пра свае амбіцыі заявіў Дзмітрый Дзёмушкін, адзін з лідараў расійскага нацыяналістычнага руху. Праўда, найбольшы інтарэс у грамадстве выклікалі словы Дзёмушкіна пра тое, што ён і яго прыхільнікі гатовыя падтрымаць ліберальнага палітыка накшталт Керанскага, калі ён дапаможа не дапусціць пераабрання Пуціна. На гэтым марафон кандыдатаў не закончыўся. Пра намер прыняць удзел у кампаніі заявіла створаная яшчэ ў 2003 годзе ініцыятыўная група паліттэхналагаў «Гары Потэр». Гэта група лічыць, што добрыя шансы на выбарах мае палітык, які напярэдадні выбараў зменіць пашпартныя дадзеныя, стаўшы цёзкай добрага чараўніка Гары Потэра. Імя гэтага палітыка, безумоўна, будуць трымаць у тайне да апошняга дня. Па словах паліттэхналагаў, Потэр настолькі папулярны ў рускім грамадстве, што кандыдату адразу гарантавана як мінімум 10 працэнтаў. Праўда, магчыма, праект «Гары Потэр» ніколі не ўвасобіцца ў жыццё. Ходзяць плёткі, што яго прыдумалі ўлады, каб адцягнуць увагу ад Навальнага.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. ПРЫЙШОЎ КАНЕЦ БІПАРТЫЗМУ

Сацыялагічныя апытанні сімпатый іспанцаў да палітычных партый указваюць на тое, што краіна на парозе краху біпартыйнай сістэмы. Нагадаем, што пасля падзення дыктатуры ў 1975 годзе Іспаніяй па чарзе кіравалі сацыялісты і кансерватары, абапіраючыся на парламенцкую большасць. Цяпер пра гэта, здаецца, можна забыць. Калі б выбары адбыліся заўтра, то кансерватыўная Народная партыя (PP) мела б 24,5 працэнта падтрымкі, а Аб'яднаная рабочая сацыялістычная партыя Іспаніі — усяго 23 працэнты. У такіх умовах партыям давялося б шукаць партнёраў у кааліцыю. Найбольш перспектыўнымі партнёрамі маглі б быць левыя з блоку «Аб'яднаная левая» і лібералы з партыі «Саюз за дэмакратыю і прагрэс» (UPyD). Рэйтынгі згаданых партый, наадварот, выраслі з часу апошніх парламенцкіх выбараў (лістапад 2011 года), адпаведна, да 15 і 13 працэнтаў. Між тым, палітолагі сцвярджаюць, што з улікам працягу эканамічнага крызісу падзенне давер'я да традыцыйных партый будзе працягвацца, і яшчэ не зразумела, хто каго будзе запрашаць у кааліцыю пасля наступных выбараў.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. У ПОШУКАХ СНЕЖНЫХ ТЭРАРЫСТАЎ

Уся Украіна заінтрыгаваная. Усё больш загадкавай становіцца справа снежных тэрарыстаў, якія 2 красавіка закідалі снежкамі дэпутатаў Партыі рэгіёнаў падчас мітынгу. У выніку Ірына Горына, адна з дэпутатак, аказалася ў шпіталі з дыягназам «страсенне мазгоў». Гэты факт быў выкарыстаны праўладнымі СМІ для пачатку маштабнай кампаніі супраць апазіцыянераў, якія выкарыстоўваюць гвалт супраць апанентаў. Ужо распачата крымінальная справа за тую снежную атаку, удзельнікам якой свеціць да 4 гадоў турмы. Аднак саміх «тэрарыстаў» дасюль знайсці не могуць, хаця ёсць здымкі інцыдэнту. Між тым, сама апазіцыя кажа, што скандал штучны. Ёсць іншае відэа, на якім бачна, як Горына і яе калега па фракцыі проста пасміхаюцца, калі ў іх ляцяць снежкі. У дадатак сама Горына ўпарта хаваецца ад журналістаў, што выклікае інсінуацыі наконт яе сапраўднага стану здароўя. Нарэшце, у сеціве з'явіўся правакацыйны маніфест нейкага Бандэры, які заклікае наступным разам кідаць у рэгіяналаў не снежкі, а камяні.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. ПРЭМ'ЕР ПАВІНЕН ЗАСТАЦЦА Ў АФРЫЦЫ




10 красавіка ў Польшчы ўзгадвалі 3-ю гадавіну авіякатастрофы пад Смаленскам. Правая апазіцыя выкарыстала гэту сумную дату для пачатку новай атакі на ўрад прэм'ера Дональда Туска, які, быццам, ледзь не арганізаваў разам з ФСБ аварыю з прэзідэнцкім самалётам. Асабліва дасталося Туску за намер 10 красавіка пакінуць Польшчу, каб наведаць Нігерыю. З гэтай нагоды Барташ Кавнацкі, дэпутат ад партыі «Права і справядлівасць» (PiS), увогуле лічыць, што кіраўнік ураду павінен застацца ў Афрыцы. Па яго словах, стыль працы Туска пасуе менавіта афрыканскім дзяржавам. Парламентарый таксама дадаў, што такі ўчынак будзе лепшым падарункам для палякаў. Іншы дэпутат ад PiS Анджэй Дуда ўсур'ёз лічыць, што Туск сапраўды застанецца ў Афрыцы, паколькі пракуратура накапала дастаткова фактаў пра яго дачыненне да падзей 10 красавіка 2010 года, і ён рыхтуе ўцёкі з краіны. Як бачым, тэма Смаленску дасюль падзяляе польскае грамадства. Дарэчы, Туск нават заявіў пра намер заснаваць спецыяльную ўрадавую праграму, у рамках якой палякам будуць тлумачыць, што ўрад не мае ніякага дачынення да той трагедыі.

**Паводле польскай прэсы**

▸ ЦІКАВА

# НЕАБУРБАНІСТЫ СУПРАЦЬ ПАДАНІСТАЎ

**Алег НОВІКАЎ**

**Пасля таго, як на поўначы Італіі актывізаваліся прыхільнікі стварэння дзяржавы Паданія, на поўдні краіны загучалі галасы ў падтрымку вяртання да Каралеўства Абедзвюх Сіцылій.**




Здагадайцеся, якая дзяржава была самай магутная і індустрыяльна развітай у сярэдзіне XIX стагоддзя ва ўсім свеце? На думку некаторых інтэлектуалаў з Неапаля, значна мацней за Вялікабрытанію і Францыю было на той час Каралеўства Абедзвюх Сіцылій — краіна на Поўдні Апенінскага паўвострава, якая існавала ў 1816–1861 гадах і знікла з палітычнай мапы пасля аб'яднання Італіі.

У часы існавання каралеўства, якім правіла неапалітанская лінія дынастыі Бурбонаў, тут, маўляў, існаваў другі Эдэм — квітнелі камерцыя, вытворчасць, турызм… І раптам з Поўначы прыплыў Гарыбальдзі, які па загаду караля П'емонту скінуў любімага народам манарха — 26-гадовага Францыска II. Менавіта пасля гэтага і пачалі фармавацца ўсе цяперашнія сістэмныя праблемы Поўдня: беспрацоўе, карупцыя, эканамічная адсталасць, мафія і г.д. Напрыклад, канфіскацыя інтэрвентамі з неапалітанскіх банкаў 90 тысяч залатых дукатаў (па цяперашняму курсу каля мільярда долараў) развалiла фінансава-крэдытную сістэму і спыніла тэхнічны прагрэс, які, як вядома, вымагае інвестыцый.

Для гісторыкаў агучаная тэорыя падобная да прыгожай казкі. Каралеўства Абедзвюх Сіцылій на час дэсанту Гарыбальдзі было замшэлай тыраніяй, дзе была прыпынена дзейнасць Канстытуцыі. Адсутнасць палітычных і сацыяльных правоў знайшла адлюстраванне ў выніках рэферэндуму аб ліквідацыі манархіі Бурбонаў, які адбыўся пасля разгрому Каралеўства Абедзвюх Сіцылій. У выніку 1 732 000 удзельнікаў плебісцыту прагаласавалі за ўваход краю ў склад Італіі, і толькі 11 000 — супраць.

Аднак, здаецца, на такую дробязь увагі не звяртаюць. Пасля таго, як быў прадэкларыраваны намер стварыць на базе паўночных правінцый Італіі дзяржаву Паданія, на Поўдні не на жарт захапіліся ідэямі адраджэння былога Каралеўства Абедзвюх Сіцылій. На працягу апошніх гадоў назіраецца актыўнае развіццё руху неабурбаністаў (ад італьянскага: Neo Borbonici).

Спектр праектаў, якія належаць руху неабурбаністаў, дастаткова шырокі. Напрыклад, неабурбаністы маюць сваю «фірму» (арганізацыя фанатаў) пры тарсідзе клуба «Напалі» (самая славутая італьянская футбольная каманда з Поўдня). Тыфозі-неабурбаністы не толькі актыўна махаюць на стадыёнах жоўта-чырвоным сцягам (штандар Каралеўства Абедзвюх Сіцылій). Яны прасоўваюць ідэю пра тое, што ў італьянскай футбольнай федэрацыі існуе змова супраць паўднёвых клубаў. Так, нядаўна неабурбаністы звярнулі ўвагу на тое, што большасць судзейскага корпусу — выхадцы з Поўначы, а значыць, падсуджваюць «сваім» у матчах з клубамі, за якія гуляюць meridionali (так у Італіі называюць жыхароў з Поўдня).

Існуюць і палітычныя вітрыны руху неабурбаністаў. Гэта, напрыклад, Партыя Поўдня, створаная ў 2007 годзе ў горадзе Гаета, — апошні пункт абароны неапалітанцаў ад войскаў Поўначы. Праграма партыі патрабуе канстытуцыйнай рэформы з улікам асаблівасцяў менталітэту рэгіёнаў, прызнання за паўднёвым дыялектам статусу афіцыйнай мовы (сіцылійская мова была дзяржаўнай у Каралеўстве), адмовы ад унітарнай мадэлі італьянскай дзяржавы на карысць канфедэрацыі. Праўда, электаральныя вынікі партыі вельмі слабыя.

Таксама цікавы праект — Парламент Каралеўства Абедзвюх Сіцылій — культурна-палітычная ініцыятыва, заснаваная ў 2009 годзе. Парламентарыі, прадстаўнікі розных няўрадавых рухаў, абмяркоўваюць праблемы Поўдня, распрацоўваюць законапраекты рэгіёну, якія прапануюць заканадаўчым органам улады, праводзяць петыцыйныя кампаніі.

Аднак галоўны ўчастак фронту неабурбаністаў — гэта культура і гісторыя. Выпускаецца шмат кніг, якія закліканыя разбурыць міф пра тое, што аб'яднанне Італіі — гэта прагрэсіўны гістарычны акт. Навязваецца тэзіс пра тое, што ідэя адзінай Італіі нарадзілася ў Лондане, які планаваў Суэцкі праект і марыў пазбавіцца ў Міжземным моры такога моцнага канкурэнта, як Неапаль. Быццам, на міжнароднай выставе 1856 года ў Парыжы экспазіцыя Каралеўства Абедзвюх Сіцылій засведчыла, што гэтая краіна — трэцяя па ўзроўню індустрыялізацыі пасля Вялікабрытаніі і Францыі. Гэта перапужала брытанцаў, якія вырашылі пазбавіцца ад канкурэнта. На дапамогу прыйшла ідэя аб'яднання Італіі і амбіцыі Савойскай дынастыі, якая правіла ў П'емонце. Турын (сталіца П'емонту) даў грошы Гарыбальдзі, які рэалізаваў задуманы англічанамі праект.

**Пасля таго, як быў прадэкларыраваны намер стварыць на Поўначы Італіі дзяржаву Паданія, на Поўдні захапіліся ідэямі адраджэння былога Каралеўства Абедзвюх Сіцылій**

Самы нелюбімы персанаж неабурбаністаў — Джузепе Гарыбальдзі. Яго перамогі над сіцылійцамі спісваюць на дзейнасць масонаў, якія займаліся сабатажам у тылу каралеўскіх войскаў. Часам нелюбоў пераходзіць усе межы разумнага. Так, можна прачытаць пра тое, што Гарыбальдзі кантактаваў з крымінальнымі структурамі, якія пазней сталі базай для славутай неапалітанскай мафіі.

Адначасова малююцца жудасныя сцэны гвалту гарыбальдзійцаў з цывільнага насельніцтва, прычым не толькі падчас вайны. Паводле неабурбаністаў, пасля прыяднання Неапаля тут праводзілася спецыяльная рэпрэсіўная палітыка. Напрыклад, высокія падаткі прымусілі эміграваць з Паўднёвай Італіі 5 мільёнаў чалавек.

Аднак галоўнае абвінавачанне на адрас Поўначы тычыцца культурнай асіміляцыі. Каб маргіналізаваць мясцовую эліту ў аб'яднанай Італіі, Турын абвясціў усё паўднёвае вульгарным і архаічным. Ілюстрацыяй гэтай кампаніі ёсць, дарэчы, працы Чэзарэ Ламброзы, родапачынальніка антрапалагічнага кірунку ў крыміналогіі, асноўнай думкай якога стала ідэя аб прыроджаным злачынцы, на што ўказваюць рысы яго твару. Да прыродных злачынцаў Чэзарэ адносіў і brigante — удзельнікаў неапалітанскага грамадзянскага апалчэння, якія аказалі супраціў інтэрвентам з Поўначы нават пасля заканчэння вайны.

Хаця сам праект адраджэння Каралеўства Абедзвюх Сіцылій выглядае ўтапічным, дынаміка руху пакуль вельмі пазітыўная. Магчыма, гэта звязана з тым, што паўднёвым італьянцам надакучылі ганарлівыя забабоны жыхароў Поўначы, і яны шукаюць сродак, каб збіць з іх пыху.

Напрыканцы варта згадаць пра лёс дынастыі неапалітанскіх Бурбонаў. Хаця неабурбаністы кажуць, што яны ў большасці рэспубліканцы, звесткі пра тое, што робяць бурбоны заўсёды публікуюцца ў іх СМІ. Апошні неапалітанскі кароль Францыск II памёр у 1890 годзе. Яго наступнікам стаў яго старэйшы брат. Яго праўнук герцаг Карла, якому зараз усяго гадок, цяпер лічыцца галавой Бурбонскага дому. Нядаўна генсек Руху неабурбаністаў даслаў яму прывітанне, у якім гаворыцца: «У сітуацыі глыбокага крызісу, які перажывае Італія, Карла Бурбон з'яўляецца жывым сімвалам слаўнага мінулага, а любоў да яго з боку народа доказвае неабходнасць рэканструкцыі гістарычнай праўды».

МЕРКАВАННЕ

# ХТО СУПРАЦЬ АДНАПОЛЫХ ШЛЮБАЎ?

**9 красавіка французскі Сенат прыняў пастанову, якая дае зялёнае святло інстытуту аднаполых шлюбаў. Пра тое, што можна чакаць ад праціўнікаў закона, які напярэдадні арганізавалі шумную кампанію пратэсту, журналіст НЧ Алег Новікаў распытваў французскага калегу Аляксандра Чукаева.**



***— Чаму праблема легалізацыі аднаполых шлюбаў раптам набыла такое глабальнае значэнне?***

— Феномен масавых дэманстрацый супраць прыняцця закона пра аднаполыя шлюбы звязаны з ідэйным крызісам правых цэнтрыстаў з партыі «Саюз за народны рух» (UMP) і іх поўнай паразай не толькі на прэзідэнцкіх, але і на парламенцкіх выбарах у 2012 годзе, чаго раней ніколі не было ў палітычным жыцці Францыі. Многія аналітыкі чакалі, што правыя ад разладаў нават разваляцца на дробныя партыі. І сапраўды, усе найбольш вядомыя лідары правых сталі гандлявацца за крэсла лідара партыі, а праведзеныя партыйныя выбары паказалі, што «фракцыі» не прызналі пераможцу на пасаду старшыні-прэзідэнта. Таму кіраўніцтва UMP ухапіліся за ідэю аднаполых шлюбаў, выкарыстоўваючы гамафобныя забабоны вельмі правых і кансерватыўных груп грамадства. Пасля крызісу партыі гэта дапамагло ім зноў заявіць пра сябе на палітычнай арэне.

***— Ці ёсць у руху гамафобаў прызнаны лідар? Ці з'явіліся новыя імёны ў межах кампаніі?***

— Не. У цэлым няма нікога, хто б мог прадстаўляць гэты пратэст. Ёсць вядомыя палітыкі, але ў цэлым «рух супраць роўнасці гамашлюбаў» безаблічны, бо ўсім не надта зручна браць на сябе ролю крайняга кансерватара. Характэрна, што Крысцін Бутэн, якая звярнула на сябе ўвагу сваімі выступамі са слязамі і істэрыкамі на трыбуне парламента ў 1998 годзе, калі правыя змагаліся супраць права для гамасэксуальных пар на грамадзянскі шлюб, зараз стаіць у цяню, хоць і падтрымлівае рух супраць гамашлюбаў. Спрабуе раскруціцца 50-гадовая журналістка Фрыджыт Барджо, на якую нядаўна гомасэксуалісты, быццам, арганізавалі замах. Але ў цэлым яна вядомая хутчэй як эпатажны палітычны комік.

***— Як ставіцца да гэтай праблемы французская багема?***

— У асноўным артыстычны свет стаіць за раўнапраўе аднаполых шлюбаў. Многія з іх параўноўваюць супрацíў праекту раўнапраўя аднаполых шлюбаў з гамафобіяй. Мела месца адкрытая заява 250 артыстаў і тэлевядучых, сярод якіх нават апынуўся спявак Мішэль Сарду, які вядомы як прыхільнік правых. А спявачка Shy'm у падтрымку гамашлюбаў публічна цалавалася з вядучай канала TF1. Некаторыя артысты падтрымліваюць гамашлюб, але з абмежаваннем — супраць усынаўлення і штучнага асемянення для гамасэксуальнай сям'і.

***— У паўсядзённым жыцці — у побыце, у размовах у кафэ — гэтая тэма неяк праяўляецца? Ці ёсць спрэчкі і канфлікты?***

— У побыце няма якіх-небудзь спрэчак. У асноўным пануюць поўная абыякавасць і скептыцызм у адносінах да палітыкаў, хоць і ёсць некаторая надзея да левых. Галоўным чынам усе чакаюць сацыяльных і эканамічных рэформаў, якія змогуць стабілізаваць Францыю і вырашыць праблему росту беспрацоўя. Абыякавае стаўленне звязанае з тым, што яшчэ ў 1998 годзе была дазволеная такая форма шлюбу, як PACS, у рамках якога гомасэксуалісты могуць жыць разам. Дзякуючы існаванню PACS тэма згубіла актуальнасць, усё даўно заплюшчылі вочы на гомасэксуальныя пары і абыякавыя да праблемы іхніх шлюбаў. Тым больш, што гомасэксуальныя сем'і ніколі не аддаюць назад сірот у прытулак з-за таго, што дзеці хворыя, у адрозненні ад звычайных сем'яў. Усё, што адбываецца сёння, звязана выключна з палітычнай барацьбой на фоне крызісу.

***— Наколькі актыўна праяўляюць сябе ў канфлікце канфесіі?***

— Руская праваслаўная царква ў Францыі сумесна з Каталіцкім касцёлам выступілі катэгарычна супраць гомасэксуальнай сям'і і праекта шлюбу, іудзеі, дакладней, самая старая Канцэсія ізраілітаў Францыі, арганізаваная яшчэ Напалеонам у 1808 годзе, ад імя Вялікага равіна таксама выказалася катэгарычна супраць. Гэта меркаванне цалкам падтрымала самая вялікая ісламская арганізацыя Францыі — Саюз французскіх ісламскіх арганізацый. У даволі туманнай форме супраць выказалася федэрацыя пратэстантаў: «Шлюб не толькі любоў, гэта яшчэ і інстытут саюза мужчыны і жанчыны для стварэння нашчадкаў».

Як бачым, традыцыйныя рэлігійныя царквы выступаюць супраць сям'і гомасэксуалістаў у любым выглядзе. У той жа час нават вельмі правыя партыі і рухі Францыі не супраць праяў гомасэксуалізму ў грамадскім жыцці, але супраць закона аб роўнасці гамашлюбу з традыцыйным шлюбам, у асноўным яны супраць права на ўсынаўленне, мяркуючы, што гэта разбурае асновы не толькі традыцыі сям'і, але і дзяржаўнасці.

Дарэчы, па статыстыцы PACS, шлюб заключаюць больш за ўсё гетэрасэксуальныя пары, паколькі ён дае больш перавагі пры разводзе. Пры традыцыйным шлюбе даволі працяглы працэс разводу праз суд з вялікай аплатай паслуг адваката, у той час як пры PACS гэтага няма.

***— Ці можна казаць, што Францыя цяпер імпартуе мадэль амерыканскай палітычнай культуры, дзе вялікае месца займаюць культурныя войны?***

— Наўрад ці. У Францыі жанчына да 1944 года не мела права галасаваць, да 1974 года не мела права на аборт, да 1973-га не мела права мець асабісты банкаўскі рахунак без дазволу мужа, не мела права працаваць без дазволу мужа ці брата, і нават не мела права насіць штаны на працы без дазволу патрона... Усе падзеі, якія адбываюцца ў Францыі, — гэта старая ціхая барацьба прадыцыйнага каталіцкага светаўспрымання з яго каштоўнасцямі і свецкага грамадства, якое ўвесь час мадэрнізуецца.

***— Як левыя і ініцыятары закона ставяцца да радыкалізацыі праціўнікаў? Ці няма жадання пайсці на саступкі?***

— Прэзідэнта Аланда многія абвінавачваюць у тым, што ён, нягледзячы на рэзкія выказванні і ўменне крытыкаваць сваіх супернікаў, занадта мяккі, і таму можа адкласці праект закона аб роўнасці шлюбаў.

У той жа час большасць правых не жадаюць поўнай перамогі ў сваіх патрабаваннях. Тут для іх важней кансалідацыя сваіх сіл для прымірэння ўнутраных фракцый. Многія з іх лічаць, што перамога гамафобаў, сярод якіх тон задаюць ультраправыя, можа канчаткова адсунуць «Саюз за народны рух» у цень «Нацыянальнага Фронту» ў тым ліку з-за адсутнасці ў UMP на цяперашні дзень сапраўднага лідара і выразнай палітычнай платформы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЕНАДЗЬ ЗЮГАНАЎ



Лідар расійскай Кампарты (КПРФ) і яго аднапартыйцы знайшлі новую забаўку — пачалі кампанію супраць установкі ў Самары і шэрагу іншых гарадоў Расіі помнікаў белачэхам (салдатам чэхаславацкага корпусу). Корпус, як вядома, змагаўся на баку Расіі ў Першай сусветнай вайне, а пасля рэвалюцыі ўзняў антыбальшавіцкі мяцеж. У чэрвені 2012 года ў Самары на грошы Чэшскай амбасады была залітая бетонная пляцоўка пад будучы мемарыял. Не дапусціць устаноўкі помніка намагаюцца цяпер камуністы, якія па ўсёй краіне асуджаюць белачэхаў і праводзяць пікеты супраць праекту ў горадзе на Волзе. Крытыка КПРФ будуецца на ідэі пра тое, што мяцеж белачэхаў па сутнасці быў замахам на суверэнітэт краіны, паколькі падчас яго ліквідаваліся органы ўлады. Другі аргумент — факты расправы белачэхаў над мірным насельніцтвам. З улікам таго, што на пікеты зюганаўцаў выходзяць па 2–3 чалавекі, здаецца, што тэма белачэхаў вельмі не зразумелая простым расіянам. Напэўна, таму камуністы дапаўняюць сваю аргументацыю тэзісам пра тое, што ўсталяванне помніка — праверка грамадскай думкі. У выпадку, калі публіка пагодзіцца з помнікам белачэхам у Самары, быццам, пачнецца будаўніцтва помніка фашыстам, прычым наўпрост на Мамаевым кургане.

### КІМ ЧЭН ЫН



Брытанская газета «The Guardian» піша, што лідар Паўночнай Карэі верыць у лічбы, а менавіта ў лічбу «9». Гэтыя забабоны — частка сямейнай традыцыі Кімаў. Магчыма, яны звязаныя з тым, што Кім Ір Сэн вырашыў заснаваць КНДР 9 верасня — дата, якая ўтрымлівае дзве дзявяткі. Гэту дату ён, нібыта, выбраў пасля сустрэчы з нейкім старым шаманам, які і параіў палітыку заўсёды трымацца дзявяткі. Так, аддзел яго асабістай аховы мае назву «963» (9 і 6+3). Яго сын Кім Чэн Ір нарадзіўся 16 лютага (1+6+2=9). Гаспадаркі, які займаюцца пастаўкамі прадуктаў для Кімаў, заўсёды мелі нумар дзевяць. Дзявяткі ёсць на асабістым лімузіне паўночнакарэйскага лідара. Дзіўная павага да лічбы перадалася і Кім Чэн Ыну. Генералам ён стаў 27 верасня (2+7 і 9). Аднак самае цікавае, што гэта любоў да дзявяткі нейкім чынам звязана з атамнай праграмай КНДР. Першы тэст атамнай бомбы адбыўся 9 кастрычніка 2006-га. Другі тэст — 5 красавіка 2009-га. Ракета, якая павінна даставіць ядзерны зарад у ЗША, называецца Unha–9. На думку аўтара артыкулу ў «The Guardian», Захад павінен скарыстацца гэтай інфармацыяй. Калі вераць выданню, калі Пхеньян і пачне вайну, то толькі 9-га.

### АЙША КАДАФІ



37-гадовая старэйшая дачка палкоўніка Муамара Кадафі падчас рэвалюцыі паспела збегчы з краіны. Хадзілі чуткі, што Айша хаваецца ў Венесуэле. Аднак цяпер дакладна вядома, што прытулак ёй даў Алжыр. Больш таго, алжырскія ўлады нават вырашылі пасяліць Айшу ў адну з рэзідэнцый прэзідэнта. Праўда, хутка Айшу з таго палацу выгналі з-за серыі канфліктаў з аховай. У дадатак дачка Муамара ламала мэблю і нават спрабавала падпаліць будынак. Апошняй кропкай для гаспадароў стала атака лівійкі на партрэт алжырскага прэзідэнта, які мірна вісеў у адным з пакояў. Такога вандалізму алжырская ўлада не пацярпела і выставіла Айшу Кадафі з апартаментаў. Праз нейкі час яе таксама выставілі з краіны. Цяпер вядома, што новы палітычны прытулак ёй далі ў Амане, дзе, дарэчы, хаваюцца яшчэ два сына Кадафі. Застаецца сказаць, што Айша — заклятыя вораг новага лівійскага рэжыму. Яна асабіста ўдзельнічала ў вайне з паўстанцамі (дарэчы, яна мае пагоны генерал-лейтэнанта), як прафесійны юрыст намагалася засудзіць NATO за бамбардзіроўкі. Яшчэ адзін матыў для помсты — гібель двух дзяцей і мужа пад агнём паўстанцаў. Цяпер усе гадаюць, ці працягне жанчына, якую за рыжыя валасы і прыгажосць калісьці называлі Клаўдзіяй Шыфер Паўночнай Афрыкі, вайну з новым лівійскім урадам.

МАСТАК

# У ВАНДРОЎЦЫ ЗА МАРАЙ

Арсень ЛІС

**Неяк яшчэ ў свае маладыя гады, вясною, з высокага берагу Дзвіны ўбачыў мастак аднойчы ўразлівы абразок. На шырокай плыні ракі паказаўся плыт. На ім, стоячы ва ўвесь рост, са стырном упраўлялася маладая гожая дзяўчына. І столькі спрытнасці, статнасці, харашыні было ў яе руках, паставе, што мастак, зачараваны, не мог адвесці вачэй, аж пакуль постаць дзяўчыны-плытагона не знікла на рачным даляглядзе.**



Язэп Драздовіч

Дзяўчына? Адна? Занядужаў, памёр бацька — карміцель сям'і? Трапіў у астрог ці ў якую-небудзь яшчэ бяду? Пэўна ж, не прыхамань, маладая неразважлівасць, выклік выправілі гэту сялянскую красуню ў такую рызыкоўную работу-вандроўку... Убачанае мільганула перад вачыма мастака як дзіўнае імгненне. І доўга, можа, усё жыццё, заставалася жыць у яго душы. У маладзейшыя гады — нейкім парываннем услед за марай, на сходзе дзён — няздзейсненай мрояй, светла-журботным успамінам нечага балюча-дарагога ў гэтым свеце, на гэтай роднай, спрадвечнай зямлі, дзе яму было наканавана нарадзіцца, жыць, пакутаваць, любіць і нешта рабіць для яе. Тое, што яна патрэбна яму, і ён патрэбен ёй — зямлі бацькоў — смутна адчуў ужо ў гады навучання ў Віленскай рысавальнай школе Трутнева, дзякуючы знаёмству з асяроддзем рэдакцыі газеты «Наша ніва», куды будучы мастаком пачаў рана ўчашчаць. Там, адходзячы ў 1910 годзе ў царскую армію, пакінуў немалую калекцыю сваіх ранніх графічных малюнкаў і першыя жывапісныя фантазіі. Тады ж, у 1910-м, трапіў да людзей надрукаваны на вокладцы «Беларускага календара» яго сімвалічны малюнак «Старая і маладая Беларусь». Потым Купала заказаў яму аздобіць першы зборнік маладой паэткі К. Буйлы «Курганная кветка». Паэтычную ідэю кнігі мастак увасобіў у графічна строгім, алегарычным вобразе жанчыны-загадкі, таямніцы ў жаночым вобліку.

Служачы вайсковым фельчарам на Волзе, затым у Паўлаўску каля Вышняга Валачка, Драздовіч стварыў графічныя аркушы «Вогнішча», «Вецер», «Свабода», пазначаныя прадчуваннем вялікіх грамадскіх перамен, мастацкай пранікнёнасцю, сімволікай. За час вайсковай службы наведаў Петраград і завязаў шчырыя, прыязныя адносіны з прафесарам Б. І. Эпімах-Шыпілам, патрыярхам беларусазнаўства, добрым геніем акадэмічнай беларускай моладзі ў сталіцы імперыі. Дружба гэта пазней не раз хораша адзывалася ў жыцці мастака.

Так скляліся абставіны, што на самым пачатку 1920-х гадоў, калі пагранічныя слупы падзялілі Беларусь на два светы, Драздовіч быў на сваёй малой радзіме, у Дзісеншчыне. Гістарычныя ўмовы ўгатавалі яму ў Заходняй Беларусі лёс беспрацоўнага мастака. Аднак суровыя, часам фатальныя абставіны не скарылі незалежнай, вольналюбівай натуры мастака, не скрышылі яго дух. І ў тых умовах Драздовіч захаваў сябе як асоба, захаваў сваё мастацтва: дзеля вышэйшай ідэі, лепшай будучыні свайго народа. Не абышлося ў гэтым супрацьстаянні мастака неспагадным абставінам без выдаткаў, без страт. Зашмат часу яму даводзілася адбіраць у натхнення для таго, каб здабыць кавалак надзённага хлеба. І ўсё ж працаваў ён шмат, нават апантана, і мастацкая спадчына яго, раскіданая па свеце, уражвае і арыгінальнасцю, і колькасцю зробленага за нялішне вялікі век — нацэлыя 64 гады.

Свой грамадзянскі доўг мастака Язэп Драздовіч рана ўгледзеў у тым, каб актуалізаваць айчынную гісторыю. Усё жыццё ён імкнуўся ажывіць на палатне, графічных аркушах гістарычныя шляхі свайго народа, увасобіць мінулае ў выяўленча-мастацкіх вобразах. Ужо ў 1916 годзе ён стварае бюст Францыска Скарыны — постаці, якая велічна высіцца на духоўным гарызонце беларускага народа эпохі еўрапейскага Адраджэння. Сродкамі пластыкі ўвасабляе легенду часу нашых свядома-гістарычных пачаткаў — Рагнеду-Гарыславу.

Дзесьці ў 1919–1920 гады Драздовіч піша цэлую галерэю полацкіх і смаленскіх князёў. Сярод іх — каларытную асобу дойліда нашай старажытнай дзяржаўнасці Усяслава Чарадзея. Стварае некалькі яго графічных і жывапісных партрэтаў. Пазней — тэматычных карцін. На адным з ранніх сваіх палотнаў дасканала ўзнаўляе вобраз Усяслава Чарадзея, глянуўшы на яго ў драматычным аспекце («Усяслаў Чарадзей у парубе палатаў кіеўскага князя»).

**Гістарычныя ўмовы ўгатавалі яму лёс беспрацоўнага мастака. Аднак суровыя, часам фатальныя абставіны не скарылі вольналюбівай натуры мастака, не скрышылі яго дух**

У другой палове 1920-х гадоў Драздовіч шмат робіць для таго, каб перадаць мінулае Беларусі праз вобразы старадаўніх замкаў, гарадзішчаў, гасцінцаў. Яго графічныя серыі «Крэва», «Навагрудак», «Ліда», «Мір», «Гальшаны», «Меднікі», а пазней жывапісныя палотны «Палачане праганяюць накінутага ім князя», «Песня гусляра», «Усяслаў пад Гародняй», «Скарынінскі трыпціх» нясуць вобраз Беларусі старажытнай, сярэднявечнай, заўсёды поўны жыцця, грамадскіх жарсцяў, роздуму пра будучыню.

Мастак працаваў з думкай аб вяртанні народу гістарычнай памяці, для мацавання яго свядомасці ў нялёгкіх выпрабаваннях сучаснасці. Зрэшты, у некаторых творах Драздовіч патрапляў праз гісторыю не апасродкавана, а прама выходзіць на сучасную яму заходнебеларускую рэчаіснасць. Мовою алегарычных вобразаў у графічным эцюдзе «Пажар у замку», фрэсцы «Няволя», карціне «Пагоня Ярылы» расказваў пра жорсткую гістарычную і сацыяльную долю Беларусі, Заходняй Беларусі, усяляў у душы суайчыннікаў гістарычны аптымізм.

Другой стыхіяй мастака, у якой жыў, якую адчуваў усім сэрцам, была прырода. Родную Дзісеншчыну пазнаў з маленства: сям'я Драздовічаў рана страціла карміцеля, зямлю і жыла з арэнды, перабіраючыся з месца на месца. На пачатку 20-х гадоў у вандроўках па вёсках, засценках, рэках заходняга Падзвіння мастак ужо свядома спасцігаў спакойную маляўнічую красу роднай зямлі. На яго чорна-белых аркушах устаюць затанулыя ў збажыне сялянскія сядзібы («Стадолішча»), лясныя валатоўкі («Гара Гаравятка»), вёскі, прытуленыя ў лясной глухамані («Лаўрынаўка»), шляхоцкія засценкі («Пунькі», «Александрыя»), рачныя берагі з курганамі, векавечным борам над люстрам вады («Дзісёнка ля Баяр», «Дзісёнка ля Сталіцы», «Над Дзісёнкай», старыя шляхі, местачковыя ваколіцы (альбом «Глыбоччына»).







Вандроўкі раскрывалі мастаку не толькі неспазнанае хараство роднай зямлі, але і багацце душы народнай, падымалі завесу над таямніцай народнага генія. Хацелася і, канечне, трэба было шмат чаго зрабіць. Драздовіч натуе тыпы народнай пабудовы («Сучасная хата на Дзісеншчыне», альбом «Ашмяншчына: Хаты і гумны»), замалёўвае народныя строі, прылады працы, прадметы хатняга ўжытку, запісвае песні, прыказкі, складае слоўнікі народнай тэрміналогіі па анатоміі, фаўны і флоры Беларусі, і скрозь, дзе б ні вялі яго сцежкі, робіць накіды памятных мясцін, краявідаў, помнікаў архітэктуры («Свір», «Кушляны», «Жупраны», «Баруны», альбомы «Драўлянае будаўніцтва Навагрудчыны і Піншчыны», «Храмавае дойлідства Навагрудчыны і Дзісеншчыны» і інш.), піша партрэты людзей, у якіх знаходзіць прытулак, небагаты сялянскі папас. Паміж вандроўкамі ў пошуках працы, маляваннем насценных дываноў пакінуў некалькі пейзажаў: «Ласкова», «Краявід з цягнікам», «Возера».

Акрамя зманлівай далечы гісторыі, куды не раз уносіўся ўяўленнем, вобразы якой прымушаў ажываць на палатне, жыў яшчэ адной марай. З гадамі яна перарасла ў апантаную цягу пазнаць сусвет, разгадаць таямніцу гармоніі руху нябесных свяціл. Мастак горача верыў, што чалавецтва ў будучым адрыне войны, вызваліцца ад знясільваючай фізічнай працы і ўвесь свой геній аддасць развіццю творчасці, пазнанню Сусвету.

З пачатку 30-х гадоў Драздовіч запісвае свае касмічныя візіі аб жыцці на іншых планетах, стварае серыі тановай і чорна-белай графікі на гэту тэму, піша каля двух дзясяткаў карцін. Сярод іх — «Падкружнікавы краявід на планеце Сатурн», «Касмаполіс», «Каналы на Марсе», «Сустрэча вясны на Сатурне», «Трывеж»... Апошні з касмічных матываў Драздовіча «Месячны краявід» (акварэль) пазначаны 1947 годам, часам напісання філасофска-роздумных яго «Дзядоў, або памінак» і філасофска-абагульняльных «Успамінаў на руінах», твораў глыбока гуманістычных, сутнасна беларускіх.

Праз чвэрць стагоддзя пасля смерці мастака, у 1979 годзе, мастацкая спадчына яго стала здабыткам шырокай грамадскасці. Выстава твораў Язэпа Драздовіча, арганізаваная прадстаўнікамі маладой генерацыяй беларускіх мастакоў Я. Куліком, М. Купавам, А. Марачкіным, У. Крукоўскім, А. Шатэрнікам, уразіла арыгінальнасцю і багаццем створанага пачынальнікам нацыянальнай школы выяўленчага мастацтва.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# ГІСТОРЫЯ «ЛЯСНЫХ БРАТОЎ» ЯК КАТАЛІЗАТАР ГРАМАДСКАЙ ДЫСКУСІІ

Артыкул Ігара Мельнікава «Хто паляваў на савецкіх афіцэраў у Бабруйску?» (№ 8 ад 1 сакавіка 2013 года), перадрукаваны на сайтах TUT.BY і «Салідарнасць», выклікаў нечакана вялікую і эмацыйна вострую хвалю чытацкіх каментароў (больш за 500 толькі на TUT. BY). Значыць, яшчэ не адбалела, значыць, памяць пра трагічныя і супярэчлівыя падзеі, здавалася б, ужо далёкай мінуўшчыны яшчэ хвалюе грамадства, яшчэ пульсуе ў сямейных паданнях, яшчэ шукае сваю праўду аб схаваных пад грыфам «сакрэтна» людскіх лёсах. Рэдакцыя НЧ папрасіла аўтара асэнсаваць чытацкую пошту.

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Публікацыя майго артыкулу пра паваенны бандытызм у Бабруйску і выхад прысвечанага гэтай тэме дакументальнага фільма пацвердзілі, што беларускае грамадства зацікаўлена ў высвятленні праўды пра тыя неадназначныя падзеі.**

## Таямніца за сямю пячаткамі

Гісторыя паваеннага антысавецкага супраціву ў Беларусі ў савецкія гады практычна не даследавалася. Дакументы, звязаныя з гэтай тэмай, былі даступныя толькі супрацоўнікам спецыяльных органаў, а факты змяшчаліся толькі ў спецыяльных выданнях, накшталт апублікаванай у Маскве ў 1957 годзе сакрэтнай кнігі «Беларускія буржуазныя нацыяналісты».

На тэрыторыі паваеннай Беларусі дзейнічалі розныя антысавецкія фарміраванні: у Заходняй Беларусі — польская Армія Краёвая, на Берасцейшчыне — «бульбаўцы» з Украінскай Паўстанцкай Арміі. Былі і беларускія нацыянальныя партызанскія фарміраванні, што змагаліся за незалежную, кажучы мовай протаколаў КДБ, «буржуазную» Беларусь.

У 1991 годзе Савецкі Саюз «загадаў доўга жыць», і праўда пра шматлікія падзеі мінуўшчыны, у тым ліку звязаныя з Другой сусветнай вайной, стала здабыткам грамадскасці. Украінцы пачалі глыбока вывучаць гісторыю УПА, літоўцы, латышы і эстонцы — даследавалі лёсы сваіх «лясных братоў». Не выключэннем у гэтым сэнсе былі і беларусы, якія выдалі шэраг прац, прысвечаных гісторыі беларускіх паваенных антысавецкіх фарміраванняў.


Атрад Украінскай Паўстанцкай Арміі (УПА)

Але даследавана не ўсё, і ў гісторыі дзейнасці «лясных братоў» на тэрыторыі Беларусі ў пасляваенны час да сённяшняга дня застаюцца «белыя плямы». Адну з такіх мне ўдалося выявіць і даследаваць падчас працы над артыкуламі, а пазней і сцэнарам дакументальнага фільма, прысвечанага дзейнасці банды «лясных братоў» на тэрыторыі Бабруйшчыны ў паваенны час.


Лясныя браты



На здымках фільма «Бабруйскі вузел. Ліквідацыя». У форме афіцэра НКУС аўтар Ігар Мельнікаў

## Бандыты ці патрыёты? Трэба разбірацца

Пасля таго, як сайт TUT.BY перадрукаваў артыкул «Хто паляваў на савецкіх афіцэраў у Бабруйску?», шматлікія інтэрнэт-карыстальнікі імкнуліся паўдзельнічаць у дыскусіі па гэтай тэме і выказаць свае меркаванні. Напрыклад, некаторыя «каментатары» паспяшаліся ўсіх антысавецкіх партызан залічыць да бандытаў. Так, «Віталь́д–12» піша: «Вот этих борцов с большевизмом сейчас пытаются сделать героями и увековечить их память как репрессированных, а на деле они предатели и бандиты». Другі каментатар пад нікам «musyaaaa» піша: «Предательство коллаборационистов в том, что они гитлеровцам служили. Служили врагу, который напал на их Родину».

Я асабіста лічу, што не варта агулам прылічваць усіх «лясных братоў» да здраднікаў і нацысцкіх паслугачоў.

Сярод нашых суайчыннікаў, якія пасля вайны пайшлі ў лес, было шмат сапраўдных беларускіх патрыётаў, якія не ўдзельнічалі ў карных акцыях нацыстаў і не знішчалі мірнае насельніцтва. У гэтым сэнсе характэрным з'яўляецца прыклад Івана Раманчука з вёскі Баяры Нясвіжскага раёна. Падчас нямецкай акупацыі гэты чалавек быў інструктарам Беларускай народнай самапомачы (БНС). Гэта арганізацыя займалася зборам грашовых і матэрыяльных каштоўнасцей, прадуктаў харчавання, абутку і зімовай вопраткі, аказвала матэрыяльную дапамогу пацярпелым ад вайны, займалася арганізацыяй устаноў аховы здароўя, дастаўкай друкаваных выданняў у акругі і паветы.

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Іван Раманчук працягваў працаваць настаўнікам у Нясвіжы. Аднак, зразумеўшы, што новая ўлада запісала яго ў нацысцкія памагатыя, ён перайшоў на нелегальнае становішча. Больш таго, Раманчуку ўдалося сфармаваць партызанскі аддзел, а пазней ён стварыў «Саюз барацьбы за незалежнасць Беларусі». «Ястраб», такую мянушку ўзяў сабе былы настаўнік, трымаў у страху прадстаўнікоў савецкіх дзяржаўных органаў. Яму нават удалося знішчыць старшага оперупаўнаважанага Нясвіжскага раённага аддзела МДБ Іосіфа Гейсіка. У маі 1949 года Іван Раманчук быў узяты ў аблогу на адным з хутараў у Нясвіжскім раёне. Паранены ў баі, ён быў затрыманы чэкісцка-вайсковай групай.

Падчас следства Іван Раманчук адзначыў, што мэтай створанага ім «Саюза барацьбы за вызваленне Беларусі» была барацьба супраць савецкай улады і за стварэнне незалежнай Беларусі. У атрадзе Раманчука былі сябры «Саюза беларускай моладзі», былыя жаўнеры Беларускай краёвай абароны. Сябры створанай Раманчуком арганізацыі друкавалі ўлёткі з заклікамі змагання за Беларусь, ім удалося знайсці паплечнікаў сярод студэнцкай моладзі Гродна. Амаль усе сябры арганізацыі разам з Іванам Раманчуком атрымалі максімальны на той час прысуд — 25 гадоў турэмнага зняволення (у 1947 годзе ў СССР было адменена смяротнае пакаранне — аўт.). Былы настаўнік з Нясвіжу адбываў свой тэрмін у Варкуце.

Дык кім на самай справе быў Іван Раманчук: нацысцкім памагатым ці змагаром за Беларусь? Мне асабіста падаецца, што гэта быў шчыры патрыёт Беларусі, які як мог змагаўся за тое, каб Беларусь была незалежнай. Пасля вызвалення Нясвіжа ад нямецкай акупацыі ён быў звычайным выкладчыкам, вучыў дзетак, і нават не думаў пра ўзброеную барацьбу. Але бальшавікі запісалі яго ў ворагі, і ён, прыняўшы выклік, да апошняга змагаўся за Беларусь.

Разам з тым, такіх сапраўдных патрыётаў, як Іван Раманчук, сярод «лясных братоў» было няшмат. Часцей за ўсё, у лясы ішлі тыя, на кім была кроў. Дадзенае сцвярджэнне датычыцца і бандытаў, якія дзейнічалі ў 1944–1948 гадах пад Бабруйскам. Падчас нямецкай акупацыі большасць з тых, хто потым далучыцца да бабруйскіх «лясных братоў», удзельнічала ў карных акцыях супраць мясцовага насельніцтва. Дакладна вядома, што кіраўнік атрада Аляксандр Аношка асабіста выдаў нацыстам некалькі партызанскіх сем'яў і ўдзельнічаў у арганізацыі вывазу беларускага насельніцтва ў нямецкае рабства. Пасля таго, як Бабруйшчыну вызвалілі з-пад нямецкай акупацыі, Аношка сышоў у лес, сабраў атрад з былых паліцаяў ды ўласаўцаў і пачаў рабаваць, страляць, паляваць на савецкіх афіцэраў.

І вось тут з'яўляецца момант, які патрабуе тлумачэння. Шэраг каментатараў на TUT.BY палічылі, што бабруйскія «лясныя браты» былі змагарамі супраць крывавай бальшавіцкай улады. Гэтым людзям я хацеў бы задаць наступныя пытанні: ці быў франтавік, капітан Аляксандр Прэз ды іншыя афіцэры, што сталі ахвярамі бабруйскіх бандытаў, «крывавымі бальшавіцкімі камісарамі»? Адказ адназначны — не. Гэтыя людзі прайшлі праз жудасныя выпрабаванні на франтах Вялікай Айчыннай, выжылі і былі забіты ўжо пасля вайны. Цішком. Ці змагаліся тыя «лясныя браты» з-пад Бабруйска за незалежную Беларусь і за беларусаў? Мяркую, што жыхары вёскі, якую бандыты хацелі спаліць, даведаўшыся, што ў ёй размясціўся атрад міліцыі, так не думалі. І тут няма ніякай прапаганды. Аношка і яго паплечнікі былі звычайнымі злачынцамі. Да таго ж, сярод тых бандытаў былі і былыя сябры «Саюза барацьбы супраць бальшавізму», якія па сутнасці з'яўляліся рускімі нацыяналістамі.

## Глыбокі аналіз усіх фактаў

Выхад фільма «Бабруйскі вузел. Ліквідацыя», прысвечаны дадзенай гісторыі, таксама выклікаў неадназначную рэакцыю. Некаторыя эксперты паспяшаліся заўважыць, што фільм «можа скласці ўражанне, нібыта ўсе падпольныя атрады ў Беларусі былі бандытамі, што ў іх ніякай ідэі не было», і таму «савецкая ўлада правільная, і рабіла правільна, калі праводзіла знішчэнне гэтага падполля». Насамрэч, у стужцы дакладна расказваецца пра тое, якія антысавецкія атрады дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі ў пасляваенны час, што яны з сябе ўяўлялі, хто быў у іх складзе. Акрамя гэтага, вялікая ўвага надаецца менавіта Бабруйскай гісторыі, у цэнтры якой знаходзіцца сапраўдная банда, якая змагаецца не толькі супраць улад, але і супраць свайго народа. І гэта не прапаганда, а ўспаміны жывых сведкаў тых падзей.

Аналізуючы гісторыю паваеннага антысавецкага супраціву, сапраўды, трэба рабіць глыбокі аналіз усіх фактаў, звязаных з тымі падзеямі. Для савецкіх следчых органаў і настаўнік Раманчук, і бургамістр Аношка былі злачынцамі. Абодва атрымалі па 25 гадоў зняволення. Але сёння мы ў стане правесці даследаванне, якое дазволіць зразумець, што першы змагаўся за незалежную Беларусь, а другі проста ратаваўся ад расплаты за злачынствы, здзейсненыя падчас нацысцкай акупацыі Беларусі. Праца гісторыка якраз і заключаецца ў тым, каб даць грамадству праўдзівую інфармацыю пра падзеі мінулага.

▸ ПОШТА

# ГОГАЛЬ НАД СТАЛІНЫМ

Яўген БЯЛАСІН

**Згадаў пра месца супакаення статуі таталітарнага кіраўніка СССР брэстаўчанін Уладзімір Кудравец.**


Містыка! Бетонныя скульптуры каля драматычнага тэатра

«У 1990-я гады, калі абазначылася палітычная вясна, — распавёў ён, — мясцовых мастакоў пасадзілі капіяваць архівы. Адна з іх, мая знаёмая, перапісала дакумент, паводле якога пасля асуджэння культу асобы ў 1960-х да помніка Сталіну прывезлі брыгаду 15-сутачнікаў. Тыя выкапалі яму, у якую з пастамента і скінулі бетоннага правадыра. Потым на гэтым самым месцы паставілі бюст Гогалю».

Помнік, напэўна, там і застаўся. У абласным краязнаўчым музеі знайсці адпаведнае дакументальнае сведчанне супрацоўнікам не ўдалося. Аднак адзін з лідараў артадаксальных камуністаў Леанід Школьнікаў нядаўна паведаміў, што яны ведаюць месца супакаення бетоннага Сталіна і будуць спрабаваць яго адтуль дастаць.

Што рабіць з помнікам Сталіна, калі ён сапраўды пад помнікам Гогаля? Можа, варта выкапаць і ўсталяваць у адмыслова створаным парку помнікаў нашай гісторыі, як мяркуюць адны. Ці пакінуць як ёсць, і не кранаць помнік Гогалю дзеля верагодна моцна пашкоджанага бетоннага ацурбалка?

Дарэчы, з нейкай невядомай аказіі каля драматычнага тэатра цераз дарогу паставілі дзве бетонныя мужчынскія галавы-клумбы… Уражанне, нібыта яны растуць з зямлі. Адна смяецца, другая суровая. Такая вось палітычная містыка.


Помнік Гогалю ў Брэсце



Помнік Сталіну. Малюнак Мікалая Губенкі (самадзейны мастак, вядомы сваёй серыяй малюнкаў Брэста часоў Другой сусветнай вайны)



▸ ПОШТА

# ВІНШУЕМ!



У нашага калегі, сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў Кастуся Лашкевіча на гэтым тыдні дзве важныя даты: 8 красавіка яму споўнілася 30 гадоў, а 12 красавіка, акурат у дзень выхаду нашай газеты, Косця бярэцца шлюбам са сваёй даўняй сяброўкай Таццянай Баранавай.

Калектыў «Новага часу» жадае маладой сям'і пажыццёвага кахання, дабрабыту, моцнага здароўя, натхнення, унутранай і знешняй свабоды, здзяйснення ўсіх мараў і ўдачы! І мы ўпэўненыя, што ў вашым жыцці, Таццяна і Кастусь, надыходзіць Новы і самы лепшы час!

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 424

Падпісана да друку 12.04.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча